НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 33 (774) 5 верасня 2012 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕ...

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у...

## Муж выселіў Агурбаш з шасціпакаёўкі

Спявачка не змагла пераканаць суддзю, што яе шлюбны кантракт падроблены. Старонка 6.



## Каратыш: Хачу стаць дэпутатам

Кандыдат па Лунінецкай акрузе выступае ўпэўнена, па-дзелавому, па-беларуску. Старонка 4.



# Укантакце з КДБ

30 жніўня адбыўся налёт на адміністратараў суполкі **«Надакучыў нам гэты Лукашэнка»**. **Старонка 3.**



КАЛАЖ СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

Тэндэнцыі

## Людзі, а не монстры

Пра пастаноўку «Сівой легенды» паводле Караткевіча піша **Сяргей Русецкі**.

Адкрыццё 80-га сезона Оперы мусіць стацца буйной падзеяй. 9 і 10 верасня адбудзецца прэм'ера новай пастаноўкі жывога класіка беларускай музыкі Дзмітрыя Смольскага «Сівая легенда».

Лібрэта да оперы напісаў сам Уладзімір Караткевіч паводле аднайменнай аповесці. Персанажы «Сівой легенды», арыстакратынобілі, паказаныя як людзі, а не монстры-крывапійцы. Разважлівы і летуценны Раман Ракутовіч, гарачы, грубаваты князь Кізгайла, уладная і суровая пані Любка.

Прэм'ера папярэдняй пастаноўкі адбылася ў 1978 (дырыжор — Уладзімір Машэнскі, рэжысёр — Сямён Штэйн). Спектакль ішоў шэсць сезонаў і быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй (1980).

Лірыка Караткевіча выдатна пасуе і арыям, і ансамблям, і рэчытатывам. Надоўга захоўваюцца ў памяці мелодыі і словы хору «У вырай сумны правяць гусі зноў ад матчынай зямлі», арыі Рамана «Як сэрца баліць над здраджаным краем», дуэта Ірыны і Рамана «О, Раман, маё святло, маё каханне». Для прыхільнікаў Караткевічапаэта гэтая опера можа зрабіцца адкрыццём. Слова тут мае не меншае значэнне за музыку.

**Працяг на старонцы 11.**

Адукацыя

## Школьныя канікулы хочуць скараціць

Ці дасць гэта вынік. Як у іншых? **Старонка 7.**





## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# «Ну, гэта ж для старшыні…»

Кіраўнік Ельскага райвыканкама **купляе сабе «Фольксваген Туарэг».**

Ельскі райвыканкам Гомельскай вобласці абвесціў тэндар на закуп аўтамабіля. Чыноўнікі захацелі ні многа ні мала, а раскошны прадстаўнічы джып Volkswagen Touareg з рухавіком магутнасцю да 204 к.с. Аплаціць такі неабходны сродак перамяшчэння плануецца з мясцовага бюджэту.

Тэндарная аб'ява з'явілася на сайце Goszakupki.by. Купіць хочуць Touareg V6 TDI Tiptronic або яго аналаг, рухавік — 3.0 V6 TDI, 150 кВт / 204 к.с., каробка перадач — 8-ступеньчатая АТ, колер — чорны перламутр.

За дадзены аўтамабіль Ельскі райвыканкам гатовы выкласці 587 100 000 беларускіх рублёў. Мусіць, старшыні надакучыла ездзіць на веласіпедзе, а ніякіх іншых неадкладных выдаткаў у Ельскім раёне папросту няма.

На пытанне, ці нельга было выбраць сціплейшы аўтамабіль, супрацоўніца Ельскага райвыканкама Надзея Якушэнка адказала коратка: «Ну, гэта ж для старшыні...»

**Уладзімір Чудзянцоў, tut.by**



**Леанід Пісанік узначаліў Ельскі раён у 2011 годзе. У раёне жыве каля 17 тысяч чалавек. Мясціны тут закранутыя радыяцыяй, хоць і не самыя брудныя.**




**Фотафакт**




**18-гадовы Ігар Бокій заваяваў тры залатыя медалі для Беларусі на Паралімпіядзе ў Лондане. Бокій выйграў золата на дыстанцыі 100 м кролем, 100 м батэрфляем і 100 метраў на спіне. Таксама Ігар заваяваў срэбра на дыстанцыі 50 м кролем. У яго — кепскі зрок, таму шлях на звычайную Алімпіяду для яго закрыты.**

**Дата**

## 15-годдзе Маладога Фронту

Малады Фронт паўстаў у 1997 годзе як рэакцыя на пагрозу незалежнасці краіны, што тады існавала. Змянілася не адно пакаленне, але прыходзілі новыя і новыя школьнікі і студэнты, для якіх арганізацыя рабілася справай жыцця. Свабода, беларуская мова, культурнасць жыцця — гэтыя каштоўнасці адстойваў МФ. А ўлады баяліся суполкі, здольнай выводзіць моладзь на акцыі пратэсту. Сяброў арганізацыі сталі судзіць за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі, пры гэтым арганізацыі шмат разоў адмовілі ў рэгістрацыі. Тады МФ зарэгістраваўся ў Чэхіі.

Маладафронтаўцы адзначаць свой дзень народзінаў у 17.30 у чацвер, 6 верасня, на Сядзібе БНФ (Чарнышэўскага 3).




**Праца**

## «Наша Ніва» шукае рэпарцёраў

Адкрыты вакансіі.

Праца штодзённая, калектыў беларускамоўны, матываваны і малады. Аплата ганарарная, у залежнасці ад колькасці зробленых матэрыялаў, нагрузка вялікая, але, як тое кажуць, «поўны сацыяльны пакет».

Студэнтаў вітаем.

Уменне фатаграфаваць і здымаць відэа будзе разглядацца як плюс пры адборы, таксама як і добрае веданне той ці іншай сферы жыцця (адукацыя, вопыт працы ў ёй ці пісання пра яе).

Абавязковыя ўмовы:

— выдатная беларуская мова,

— прыклады таго, што і як Вы пішаце (публікацыі ў СМІ, на сайтах, блог, старонка ў сацыяльнай сетцы),

— жвавасць, напорыстасць,

— праца рэпарцёра неспалучальная з актыўнай палітычнай дзейнасцю ці з працай у дзяржаўных установах.

Перавага будзе аддавацца тым, хто публікаваўся ў «Нашай Ніве», асабліва рэгулярна.

Тым, хто шукае нерэгулярнай працы, гэтыя вакансіі не пасуюць.

Звесткі пра сябе дасылаць на nn@nn.by з пазнакай «Вакансія рэпарцёра». У лісце павінны быць: аўтабіяграфія, тэматыка, на якую Вы хацелі б пісаць, прыклады публікацый, спасылкі на свае публікацыі.

Прэтэндэнтам давядзецца прайсці сумоўе, тэст на веданне беларускай мовы і зрабіць на спробу матэрыял.

### «Наша Ніва» шукае эксцэнтрычнага вядучага для штотыднёвай відэапраграмы

Праца рэгулярная, калектыў беларускамоўны, матываваны і малады. Аплата ганарарная, у залежнасці ад колькасці знятых матэрыялаў, але, як тое кажуць, «поўны сацыяльны пакет».

Студэнтаў вітаем.

Абавязковыя ўмовы:

— выдатная беларуская мова,

— прыклады таго, што і як Вы пішаце, публікуеце і гаворыце (публікацыі ў СМІ, на сайтах, блог, старонка ў сацыяльнай сетцы),

— жвавасць, напорыстасць,

— праца рэпарцёра неспалучальная з актыўнай палітычнай дзейнасцю ці з працай у дзяржаўных установах.

Перавага будзе аддавацца тым, хто публікаваўся ў «Нашай Ніве», асабліва рэгулярна.

Тым, хто шукае нерэгулярнай працы, гэтая вакансія не пасуе.

Звесткі пра сябе дасылаць на nn@nn.by з пазнакай «Вакансія вядучага».

Прэтэндэнтам давядзецца прайсці сумоўе, тэст на веданне беларускай мовы і адбор на відэагенічнасць.

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

## Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Адд. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

### Сцісла

**Святара пазбавілі сана**

Протаіерэй Георгій п'яным нахуліганіў на станцыі Баранавічы-Палескія ў красавіку 2012 года. Ён зняў штаны і дэманстраваў людзям тое, чаго не паказваюць.

**Сяржант папрасіў прытулку ў Літве**

Беларусь просіць Літву выдаць малодшага сяржанта Захарчанку, што ўцёк год таму. Ён служыў у роце глыбіннай выведкі спецназа Мінабароны і сцвярджае, што збег ад збіцця і здзекаў. «Апошняй кропляй, — кажа ён, — быў сход сяржанцкага саставу, на якім прапанавалі падпісаць паперу, у адпаведнасці з якой мы бралі на сябе абавязацельства выканаць любы загад прэзідэнта для абароны канстытуцыйнага ладу Беларусі». Мінабароны называе салдата звычайным дэзерцірам, схільным да сімуляцый, хлусні і круцяльства.

СГ

### Анекдоты

* * *

— Тата!..

— Чаго?

— Я трапіў каменем у суседаў «Лексус»!

— Хлопчык, я цябе не ведаю!

* * *

Унук, які правёў усё лета ў бабулі ў вёсцы, мерае ціск лепш за участковага доктара.

* * *

Латышы жартуюць пра беларусаў: калі на дарозе валяецца купюра, меншая за 1 000 руб, то беларус за ёй не нагінаецца.

* * *

Працягваецца кампанія па актыўнаму банкету выбараў.

* * *

Найбольшую актуальнасць фраза «Дробязь, а прыемна!» набывае ў дзень зарobку.

* * *

— Я тут, каб папрасіць рукі вашай дачкі.

— А-а-а, хітры! Усю бяры!

* * *

Калі з вялікага спорту прыбраць галоўны допінг – грошы, то ўсе астатнія самі знікнуць.

* * *

Мая жонка кажа, што я вельмі імпульсіўны. Ёй адкуль ведаць?! Мы ж толькі ўчора пазнаёміліся.

### Самае чытанае на nn.by за 29 жніўня — 4 верасня

1 У метро вывесілі шыльды на правільнай лацінцы

2 Зніклую ў Мінску дзяўчыну знайшлі мёртвай

3 Затрыманы начальнік цягніка Мінск — Варшава, правадніца і 12 пасажыраў

4 Топ-10 найкруцейшых школаў Беларусі

5 На вуліцы Маркса ў Мінску вывесілі фашысцкую свастыку

6 Аб'ява: «Здам пакой студэнтцы. Аплата — сэкс»

7 На фестывалі ў Гомелі загінуў басіст Litvintroll Алег Клімчанка

8 Лукашэнка: Настаў час скараціць набор у ВНУ

9 Хіт інтэрнэту — літоўскі ваяка, які не можа выламаць дзверы

10 Моўная палітыка і будучыня Беларусі

# Укантакце з КДБ

30 жніўня адбыўся **налёт на адміністратараў** суполкі «Укантакце».

Павел Еўціхіееў атрымаў 5 сутак арышту, а Андрэй Ткачоў — 7. Рамана Пратасевіча білі, але адпусцілі, бо непаўналетні. Сяргей Бяспалы ўцёк праз Расію ў Польшчу.

У кватэрах адміністратараў праходзілі вобшукі і канфіскацыі. Супрацоўнікаў КДБ цікавіла праца суполкі ў сацыяльнай сетцы «Укантакце» «Надакучыў нам гэты Лукашэнка». Пыталіся пра паролі ад суполак.

Раман Пратасевіч кажа, што яго допытвалі 4 гадзіны. Гэты час, па словах хлопца, яго білі і пагражалі «павесіць» на яго дробныя крадзяжы — патрабавалі, каб ён выдаў пароль ад свайго акаунта «Укантакце».

На сёння КДБ кантралюе працу суполкі. На старонцы ад імя яшчэ аднаго адміністратара Алега Шрамука змяшчаюцца допісы з абвінавачваннямі на адрас Максіма Чарняўскага (яшчэ аднаго адміністратара), нібыта той працуе на спецслужбы.

Адміністратары мяркуюць, што «чэкістам» удалося атрымаць пароль ад Шрамука — яго таксама дапытвалі ў Віцебску. Фактычна, праца суполкі паралізаваная. Створаная альтэрнатыўная суполка, але пакуль не такая шматлікая.

**Зміцер Панкавец, Кастусь Матушыч**

# Максім Чарняўскі: Мы ім мазолілі вочы

Адміністратар суполкі **«Надакучыў нам гэты Лукашэнка»** адказаў на пытанні «НН».




**Максім Чарняўскі**

нарадзіўся ў 1993 у Мінску. Вучыўся на журфаку БДУ. Стваральнік сайта gonzo.by. У лістападзе 2011 заявіў пра вярбоўку КДБ і з'ехаў з краіны. Жыве і працуе ў Польшчы — дзе, не прызнаецца. Кажа, што ў Польшчы яму найбольш не хапае «роднай зямлі».

У лістападзе 2011 студэнт Інстытута журналістыкі БДУ Максім Чарняўскі прызнаўся, што быў завербаваны КДБ. Ён выклаў у інтэрнэт здымкі супрацоўніка камітэта «куратара Дзімы».

КДБ хацеў адправіць Чарняўскага ў Польшчу, каб той уцёрся ў давер да лідара «Рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі» Вячаслава Дзіянава. Перад выездам Чарняўскаму выдалі камп'ютарны дыск з траянам-шпіёнам, які ён павінен быў актываваць на камп'ютары Дзіянава і, па магчымасці, іншых апазіцыйных актывістаў.

Максім быў вымушаны з'ехаць з краіны, нейкі час ён жыў і вучыўся ў Вільні. А паўтара месяца таму пераехаў у Варшаву. Чарняўскі з'яўляўся адміністратарам папулярнай старонкі ў сетцы «Укантакце» «Надакучыў нам гэты Лукашэнка».

**«Наша Ніва»: Максіме, раскажыце пра гэтую суполку.**

**Максім Чарняўскі:** Яна ўзнікла напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2010 года. Стваральнікам і адміністратарам быў Алег Шрамук. Потым ён падшукваў іншых людзей, так да суполкі далучыўся і я. Улетку мінулага года ў сувязі з акцыямі «Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку» была першая спроба наезду на суполку. Мяне выклікалі ў КДБ на допыты, завербавалі. 30 жніўня адбылася паўторная хваля ціску на суполку. На той момант старонка налічвала 37 тысяч падпісчыкаў.

**«НН»: Як удалося вылічыць адміністратараў?**

**МЧ:** Выглядае, што не ўсе яны добра шыфраваліся. Былі вельмі легкадумнымі ў гэтых пытаннях. Па-першае, у нас былі правілы, што трэба абавязкова карыстацца праграмай tor. Яна дазваляе ўсталяваць ананімнае злучэнне, што абараняе ад праслухоўвання, а таксама блытае ip-адрасы. Калі tor уключаны, то можаш пісаць з Мінска, а будзе пазначана, што знаходзішся, скажам, у ЗША. Падругое, адміністратары мусілі працаваць на Linux з шыфравальнікам файлаў. Калі нават камп'ютар канфіскуюць, каб немагчыма было атрымаць паролі. Па-трэцяе, самі паролі павінны быць складанымі. Калі ўсё гэта выконваецца, то выбіць паролі можна толькі сілай, але ад гэтага ніхто не застрахаваны.

**«НН»: Сёння суполка працуе ці не?**

**МЧ:** Калі кадэбісты атрымалі ўпершыню доступ да суполкі, то яны яе проста выдалілі. Але дзякуючы адміністрацыі сацыяльнай сеткі «Укантакце» ўдалося аднавіць. Мы думалі, што адсвяткавалі перамогу, паведамілі пра гэта на старонцы. Рана радаваліся. Учора спецслужбы зноў завалодалі суполкай. На гэты раз яны не выдаляюць, а змяшчаюць дыскрыдытуючыя матэрыялы ад імя Алега Шрамука, з якога маглі выбіць пароль.

**«НН»: І ці ёсць магчымасць вярнуць кантроль?**

**МЧ:** Зноў будзем звяртацца да кіраўніцтва «Укантакце», тлумачыць ім сітуацыю. Таксама ў нас ёсць рэзервная суполка, якая цяпер налічвае 4 тысячы сяброў. Магчыма, яе буду рэалізоўваць як асноўную.

**«НН»: Хто асноўны чытач вашай суполкі?**

**МЧ:** Моладзь, што крытычна ставіцца да дзейнай улады. Сярод сяброў у нас было каля 75% хлопцаў. Палова ўдзельнікаў былі мінчукі. Узрост дзесьці ад 15 да 25 гадоў. Многім з удзельнікаў лянота заходзіць на незалежныя сайты, таму яны чэрпалі інфармацыю з «Укантакце».

**«НН»: А што за інфармацыя змяшчалася на старонцы?**

**МЧ:** Асноўная частка — гэта перадрукі са СМІ, мы выбіралі самае цікавае. Плюс да ўсяго самі адміністратары стваралі нейкія прыколы, смешныя карцінкі. Апошнім часам шмат абмяркоўвалі байкот парламенцкіх выбараў. Думаю, гэта і была асноўная прычына наезду на суполку. Яшчэ ёсць жартаўлівая версія, што спецслужбы вырашылі зрабіць Лукашэнку падарунак на дзень нараджэння. Мы ім проста мазолілі вочы.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# «У КДБ разглядаўся варыянт фізічнай нейтралізацыі Дзіянава»

Дзмітрый Іванчанка расказаў пра сваю **вярбоўку спецслужбамі**.

Дзмітрый Іванчанка працаваў інструктарам фітнэс-цэнтра ў самым дарагім гатэлі Мінска — «Еўропе» (трапіў па размеркаванні). У лістападзе 2011 ананімна, а цяпер пацвярджае гэта публічна, расказаў пра тое, што ў «Еўропе» спецслужбы вядуць татальнае праслухоўванне нумароў, незалежна ад таго, хто ў іх жыве, а таксама праглядаюць інтэрнэт-злучэнні. Тая публікацыя была адказам на прэсінг з боку КДБ. А таксама спроба сысці ад супрацоўніцтва з чэкістамі.

### Флэшмоб ля прыбіральні

Калі летась пачаліся маўклівыя пратэсты, Дзмітрый Іванчанка і сам арганізаваў праз сацсеткі флэшмоб: удзельнікі павінны былі ў канкрэтны час стаць у чаргу ў грамадскую прыбіральню, а ў руках мусілі трымаць газету «Советская Белоруссія». Калі сабралася чарга, пачаўся разгон. Двух чалавек затрымалі. «І пачалі высвятляць, хто арганізатар. Мяне вылічылі праз камп'ютар, на якім я карыстаўся вайфаем з гатэля».

У адзін з выхадных Дзмітрыя выклікалі на працу, там чакалі пяцёра супрацоўнікаў КДБ, якія забралі хлопца на размову. Але ў КДБ здарыўся канфуз. У маладога чалавека не было дакументаў, каб прайсці ўнутр. Давялося чэкісту вярнуцца ў «Еўропу» і з асабістай справы Іванчанкі ўзяць копію пашпарта.

Размаўлялі пра арганізацыю флэшмобу. А пасля Дзмітрыю прапанавалі паўтарыць усё на камеру. За адмову пагражалі стварыць праблемы родным. Запісваць жа, па яго словах, прыехаў аператар з тэлеканала АНТ.

Праз тыдзень службіст прызначыў новую сустрэчу. «Сказаў, што трэба скантактавацца праз сацсеткі з Вячаславам Дзіянавым, увайсці да яго ў давер. З размовы я даведаўся, што ім трэба, каб я паспрабаваў прыехаць у Польшчу і выдаліць групу «Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі». Таксама ў КДБ разглядаўся варыянт, калі ў мяне нічога не ўдасца, нейтралізаваць Дзіянава фізічна сіламі супрацоўнікаў, якія мусілі ехаць са мной».

Іванчанка кажа, што нічога не рабіў. А падчас наступнай сустрэчы ён атрымаў заданне напісаць артыкул пра Дзіянава як пра супрацоўніка разведкі замежных краін. Артыкул не спадабаўся чэкісту, але паабяцаў сам яго паправіць. Далі таксама падпісаць распіску, што Дзмітрый атрымаў 100 тысяч рублёў за свой тэкст (хаця ўсё так і не апублікавалі). Малады чалавек кажа, што грошы не атрымліваў. «Калі я падпісваў, у службіста была кіпа такіх распісак».

### Ліст дырэктару

На працы ў Дзмітрыя праблем не было. Да таго часу, пакуль ён не адправіў ананімны ліст дырэктару гатэля. Маўляў, ён ведае ўсё пра супрацоўніцтва з КДБ. «Пасля гэтага ліста мне загадалі звольніцца. Сказалі, што «Еўропа» больш не мае патрэбы ў маіх паслугах». А паколькі ён быў маладым спецыялістам, прапанавалі пераразмеркавацца.

«Калі яны зразумелі, што са мной размаўляць бессэнсоўна, пайшлі іншым шляхам. 18 мая я быў затрыманы шасцю спецназаўцамі каля свайго дома ў Мінску. Начапілі кайданкі на рукі і адвезлі ў РУУС Заводскага раёна. Склалі пратакол, нібыта я лаяўся ў грамадскім месцы. Паабяцалі, што атрымаю толькі штраф, калі падпішу. Я павёўся — прызнаў сябе вінаватым. Але асудзілі мяне на 15 сутак.

На працягу гэтага тэрміну прыходзілі людзі з КДБ. Пераконвалі, каб я спыніў любыя кантакты з прэсай. Патрабавалі распіску, калі я хачу выйсці з Акрэсціна жывым».



Распіску малады чалавек напісаў. А пасля выхаду з сутак выехаў з Беларусі. За мяжой уладкаваўся на працу і паступіў вучыцца.

### Пераблыталі

«А нядаўна мне патэлефанавалі родныя. Мне прыйшла позва з'явіцца ў суд. Справа будзе разглядацца па артыкуле 9.1 КаАП — наўмыснае нанясенне цялесных пашкоджанняў. Заяву напісала мая суседка Ала Васкабовіч. Як разумею, у яе сын сядзеў. І націснуць на гэтую сям'ю цяжкасці не склала». Самае цікавае, што, са словаў Іванчанкі, справу завялі ў той час, калі яго не было ў Беларусі.

Дзмітрый адразу звярнуўся ў прэсу. У выніку на судзе 31 жніўня высветлілася, што позву даслалі не таму Дзмітрыю Іванчанку — нібыта пераблыталі адрасы.

**Сяргей Макарэвіч**

# Каратыш: Хачу стаць дэпутатам



Віталь Каратыш балатуецца ў дэпутаты па Лунінецкай акрузе.

Шмат каму ў сацыяльных сетках спадабаўся выступ Віталя. Упэўнена, па-дзелавому, па-беларуску. Каратышу 28 гадоў, ён скончыў эканамічны ўніверсітэт. Жыве ў вёсцы Кажан-Гарадок.

Працаваў у калгасе, дырэктарам вясковага Дома культуры, намеснікам дырэктара будаўнічай фірмы, адслужыў у войску. Такі народны кандыдат. Сёння — індывідуальны прадпрымальнік. Удзельнічае ў выбарах як беспартыйны.

«НН» задала некалькі пытанняў Віталю Каратышу.

**«Наша Ніва»: Чаму Вы ўвогуле вырашылі балатавацца?**

**Віталь Каратыш:** Мэта ясная — перамагчы. Можа, не на гэтых, а на наступных выбарах. Я паставіў перад сабой задачу стаць дэпутатам парламента. Мне патрэбна стаць пазнавальным, пазітыўным вобразам, чаго і дамагаюся на гэтых выбарах. Я б, можа, так актыўна і не браўся за працу, калі б падчас збору подпісаў не пабачыў, як людзі ставяцца ў чаргу да нашых пікетаў. Я не хачу асацыявацца з радыкальнай апазіцыяй ці вылучэнцамі ад улады, я звычайны чалавек, кандыдат ад народа.

**«НН»: Здымацца з выбараў не маеце намеру?**

**ВК:** Не. Сэнс байкоту прапаў, калі некаторыя палітычныя сілы вырашылі ўдзельнічаць у выбарах. Калі байкатаваць, то ўсім разам. А гэты разброд паставіў крыж на магчымасці байкоту.

**«НН»: Подпісы лёгка было збіраць?**

**ВК:** Лёгка. Хоць улічыце, што за подпісы я не плаціў грошай. Гэта была каманда маіх сяброў і аднадумцаў. Усяго ў ініцыятыўнай групе былі 42 чалавекі, але рэальна збіралі 15—20. Сабралі 1300 подпісаў. Калі б выкладаліся па поўнай, то маглі б і 5 тысяч зрабіць. Людзі хочуць пераменаў.

**«НН»: Ваша канкурэнтка, начальнік аддзела адукацыі райвыканкама Валянціна Верас карыстаецца папулярнасцю?**

**ВК:** Многія кажуць, што будуць «за» галасаваць, абы з'ехала з Лунінца ў Мінск *(смяецца)*. Было спушчана, каб ад нашай акругі вылучалася жанчына, вось і знайшлі Валянціну Верас. Налета яна выходзіць на пенсію, таму ёй вырашылі зладзіць такія провады на пачэсны адпачынак.

**«НН»: На якіх праблемных момантах жыцця Лунінеччыны Вы засяроджваеце ўвагу?**

**ВК:** Першае — адтрымка вёскі. У нашай акрузе большасць жыве ў вёсках. Нават і Лунінец з Мікашэвічамі — малыя гарады. Я кажпу, што трэба адмяніць прымусовае размеркаванне, а лепш павялічваць заробкі ў гэтых рэгіёнах. Матываваць бізнэс меншымі падаткамі. Так робіцца ў Польшчы і Вялікабрытаніі. Я не кажу, што ўлада нічога не робіць у гэтым кірунку, але можна рабіць лепш. Другое — малы бізнэс. Кажу, што трэба вярнуць прадпрымальніку права наёму трох рабочых, якое было забранае.

**«НН»: Апроч тэлевыступу неяк агітуеце за сябе?**

**ВК:** Ёсць улёткі, плакаты, каляндарыкі. Усё зроблена па-беларуску. Гэта мая прынцыповая пазіцыя. У нас на Палессі любяць мову, ёй не адпалохаеш выбарца. Падчас свайго тэлезвароту даваў нумары тэлефонаў, дык былі званкі. Людзі гатовыя дапамагаць у назіранні за выбарамі. Дарэчы, мы ладзім назіранне асобна ад «За справядлівыя выбары» і іншых ініцыятываў, толькі сваімі сіламі.

**«НН»: З рабочымі на «Граніце» кантактуеце?**

**ВК:** У мяне будзе сустрэча там. Увогуле праблема на «Граніце» не ў незалежным прафсаюзе, а ў падрыхтоўцы прадпрыемства да прыватызацыі. Начальству не трэба людзі, якія ў нязручны момант могуць выказаць сваё меркаванне.

**«НН»: У Лунінцы ўвогуле выбары абмяркоўваюць? Збіраюцца ісці на ўчасткі 23 верасня?**

**ВК:** Мне здаецца, што 40% дакладна на выбары не пойдуць. Мабілізаваць астатніх будзе складанай задачай для ўлады.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Міхальчанка просіць грошай


БЕЛГАЗЕТА

Вядучы АНТ просіць палачан рабіць яму ахвяраванні.

На апошняй старонцы «Полацкага весніка» ад 28 жніўня на правах рэкламы размешчана фота кандыдата Аляксея Міхальчанкі з заклікам уносіць грошы ў яго выбарчы фонд. «Наша перамога патрабуе ахвяр!» — кажа ён. Далей кандыдат абяцае накіраваць кожны рубель выбаршчыкаў на перамогу, правесці сумленныя выбары і зрабіць Полацк найлепшым горадам краіны.

Аляксей Міхальчанка — вядучы перадачы «Як ёсць, так ёсць» на тэлеканале АНТ, унесены ў спіс неўязных на тэрыторыю Еўрасаюза.

За мінулы год Аляксей Міхальчанка зарабіў амаль 123 мільёны рублёў. Прыкладна столькі ж, колькі спікер палаты Уладзімір Андрэйчанка. Яго гадавы прыбытак склаў 124 мільёны.

Можна даведацца, колькі атрымліваюць гарадскія чыноўнікі. Прыбытак старшыні Клецкага райвыканкама Анатоля Бойкі летась склаў 144 мільёны. Па 12 мільёнаў на месяц.

**ЗП**

# Лябедзьку і Багданкевіча не пусцілі ў эфір

Тэлеканал «Беларусь-2» адмяніў запіс дэбатаў кандыдатаў у дэпутаты «з-за паломкі абсталявання».

3 верасня старшыня АГП Анатоль Лябедзька меўся запісаць тэлдэбаты з кандыдатам у дэпутаты і дзейным дэпутатам Мікалаем Самасейкам.

«Аднак мне пазванілі і паведамілі, што па тэхнічных прычынах запіс адмяняецца», — сказаў Лябедзька. Ён мяркуе, што ў такіх сутыкненнях з апазіцыяй прадстаўнікі ўлады выглядаюць бледнавата.

Па аналагічнай прычыне быў адменены запіс дэбатаў кандыдата ад «Гавары праўду!» Таццяны Караткевіч і прафесара, былога старшыні Нацбанка Станіслава Багданкевіча. «Наўрад ці абсталяванне «адрамантуюць» у агляднай будучыні», — кажа Станіслаў Антонавіч.

Варта адзначыць, што ў эфір не выйшаў шэраг выступаў кандыдатаў ад апазіцыі, якія заклікалі да байкоту. На БТ паспрабавалі неяк апраўдаць гэтае рашэнне. Прынамсі, было сказана, што «заклікі да байкоту выбараў не адпавядаюць ні духу, ні літары закона. Забароненыя таксама заклікі да вайны, прапаганда наркотыкаў, парнаграфіі, культу гвалту і жорсткасці».

Некаторыя кандыдаты ад АГП і БНФ выкарыстоўваюць выбары, каб данесці сваю пазіцыю, а таксама заклікаць людзей не ўдзельнічаць у галасаванні.

А вось у «Справядлівага свету» свая пазіцыя. Сяргей Калякін лічыць, што трэба ўдзельнічаць да канца, каб прасачыць фальсіфікацыі на ўсіх этапах кампаніі.

**ЗП**

# Байкот-101

«Гавары праўду» сумесна з Рухам «За свабоду», «Справядлівым светам» маюць намер зладзіць кампанію байкоту па асобнай акрузе. Для гэтага была абраная Фрунзенская выбарчая акруга № 101.

Тут балатуецца прадстаўнік Партыі БНФ Арцём Лява, але ён здымецца з выбараў. Ініцыятары байкоту прызначылі першую сустрэчу з выбарцамі на 7 верасня.

**ЗП**

# «Кандыдаты» ў сенатары ад Мінска — Шакуцін, Рубінаў, Бузоўскі

У савет рэспублікі ізноў вылучаны Анатоль Рубінаў. Апошнія два гады ён быў спікерам верхняй палаты парламента.

Апроч яго, у верхнюю палату парламента прапанавалі яшчэ сем кандыдатур ад Мінска: старшыню Мінгарвыканкама Мікалая Ладуцьку, старшыню БРСМ Ігара Бузоўскага, старшыню савета дырэктараў «Амкадора» Аляксандра Шакуціна, гендырэктара па карпаратыўным развіцці ММЗ імя Вавілава Аляксандра Мароза, старшыню прэзідыума НАН Анатоля Русецкага, былога намесніка старшыні Нацбанка Уладзіміра Сянько, рэктара Беларускага аграрнага тэхнічнага ўніверсітэта Мікалая Казараўца.

Усе яны неаднаразова падкрэслівалі сваю згоду з дзейсным палітычным рэжымам у краіне пад кіраўніцтвам Лукашэнкі.

Выбары ў савет рэспублікі павінны прайсці з 6 па 25 верасня ўключна. Вынікі будуць падведзены не пазней за 5 кастрычніка ўключна.

# Вакансіі жніўня: ад 1 да 15 мільёнаў рублёў

Якую **працу прапануюць** прадпрыемствы і арганізацыі?

Сярэдні заробак у Мінску ў ліпені амаль дасягнуў 5 мільёнаў, адрапартаваў Белстат. Гэта нават больш за $500, пра якія ўлады кажуць тым часцей, чым бліжэй робіцца дата парламенцкіх выбараў. Натуральна, далёка не кожны, хто працуе ў сталіцы, атрымлівае такі заробак. Мы прааналізавалі размешчаныя на сайце Мінгарвыканкама вакансіі, каб высветліць, каму прапануюць найменшы заробак, хто зарабляе найбольш.

### Ад мільёна

Найменшыя заробкі прапануюць крэдытным і гандлёвым агентам, акушэркам у шэрагу мінскіх паліклінік. Як правіла, на такія пасады патрабуюцца маладыя людзі з невялікім працоўным стажам. Невялікія заробкі прапануюць і артыстам. Але ў іхнім выпадку часцей за ўсё гаворка ідзе пра гнуткі графік працы і частковую занятасць.

**Заробкі**

Мінск 1,05—14,7 млн
Вялікая Бераставіца 1,5—3,6 млн
Гарадок 1,05—4 млн
Лоеў 1,04—3,5 млн
Маларыта 1,08—2,9 млн
Хоцімск 1,07—2,3 млн

Так, ад 1,05 мільёна рублёў (каля $125) у Мінску прапануюць адміністратарам у шэрагу банкаў і ў Белтэлерадыёкампаніі. Столькі ж прапануюць акампаніятару-канцэртмайстру і артысту балета ў Ансамблі танца. Заробкі акушэркам прапануюць пачынаючы з 1,5 мільёна.

### Каля $500 і больш

Заробкі, большыя за 4 мільёны, найчасцей прапануюць спецыялістам будаўнічых прафесій. З гэтай сумы стартуе заробак арматуршчыкаў і бетоншчыкаў. Інжынеры і архітэктары ў сярэднім атрымліваюць 4—6 мільёнаў. Малярам і тынкоўшчыкам прапануюць ад 6 мільёнаў рублёў.

Магічныя $500 прапануюць бармэну ў гатэлі «Мінск». А вось Кіраўніцтва справаў прэзідэнта (галоўнае гаспадарчае ўпраўленне) шукае сістэмнага адміністратара камп'ютарнай сеткі з заробкам ад 4,8 мільёна (каля $570).

### Шукаюць спецыяліста з веданнем фарсі

Кепскі той адміністратар банка, які не марыць узначаліць яго. Заробак 14,7 мільёна як у кандыдата на пасаду начальніка ўпраўлення «Белаграпрамбанка» — добрая матывацыя для кар'ернага росту. Паверанаму ў справах «ТК Банка» прапануюць 12 мільёнаў, аднак кандыдату на пасаду неабходна ведаць англійскую мову і фарсі. Вядучы спецыяліст у аддзеле распрацоўкі кіравання інфармацыйных тэхналогій «Дэльта банка» будзе зарабляць на 400 тысяч больш.

Каб атрымліваць 10 мільёнаў, не абавязкова быць начальнікам у банку. Столькі прапануюць кіроўцам фураў, занятых у сферы міжнародных перавозак.

### А што ў рэгіёнах?

Як відно, у сталіцы пры жаданні можна знайсці добры заробак. А цяпер разгледзім вакансіі, якія прапануюцца ў адных з самых аддаленых ад Мінска райцэнтрах краіны. Паводле звестак Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, у Вялікай Бераставіцы (Гродзеншчына) найменшы заробак складае 1,5 мільёна. Яго прапануюць дарожнаму рабочаму, печніку, прыбіральшчыку памяшканняў, кветкаводу і слесару-сантэхніку. На найбольшы заробак у памеры 3,6 мільёна прэтэндуе інжынер энергаінспекцыі.

Гарадок (Віцебшчына) — адзіны з прааналізаваных намі райцэнтраў, дзе сустракаецца заробак, які набліжаецца да $500. 4 мільёны рублёў тут прапануюць мулярам, тынкоўшчыкам і жывёлаводам. Самы ж малы з прапанаваных заробкаў у прыбіральшчыкаў — усяго 1 055 тысяч рублёў.

У Лоеве, што на Гомельшчыне, чвэрць стаўкі відэадэманстратара складае каля 260 тысяч (1 050 тысяч за поўную стаўку). На самы высокі заробак тут прэтэндуе машыніст экскаватара — 3,5 мільёна рублёў.

Маларыцкі прафесійны ліцэй сельскагаспадарчай вытворчасці (Брэстчына) шукае тэхніка-наглядчыка на заробак у 1 090 тысяч рублёў, а мясцовая раённая бальніца гатовая плаціць 2,9 мільёна доктару-спецыялісту.

У Хоцімску на Магілёўшчыне на самы малы і на самы вялікі заробкі прэтэндуюць трактарысты. Мясцовае ДРБУ абяцае 1,07 мільёна, а ААТ «Бабулін падворак» — 2,3 мільёна.

**Сямён Печанко**

# 125 000 кв. м жытла на месцы былой турмы

Жылы комплекс **«Каскад»** у Мінску.

Першую цагліну ў падмурак «Каскада» заклалі ўлетку 2008-га. На сёння ён усё больш нагадвае той мікрараён, які «Юнівест-М» анансаваў чатыры гады таму.

Сваю назву комплекс атрымаў дзякуючы таму, што будынкі ад краёў масіву да яго цэнтра вырастаюць з пяці паверхаў да дваццаці пяці, утвараючы своеасаблівы каскад.

Праект ахоплівае пляц 16 га ў межах вуліц Кальварыйскай, Скрыганава, Бірузова і чыгункі. Ён прадугледжвае пабудову 125 000 кв. м жылля для 5 тысяч чалавек, а таксама больш за 100 000 кв. м. камерцыйнай нерухомасці.

Цалкам здаць комплекс плануецца ў 2015 годзе. На сёння адзін з дамоў «Каскада» ўжо абжыты.

Першае, што звяртае на сябе ўвагу, калі ідзеш па дарожцы паўз новы дом на Скрыганава, 2, — плітка ў некалькіх месцах паспела сур'ёзна прасесці. А таксама аварыйныя каналізацыйныя люкі. За людзьмі з тарцоў будынка пільна сочаць відэакамеры.

У двары дома паўнютка машын. Дзіцячая пляцоўка сярод гіганцкай паркоўкі — усяго толькі невялічкая плямка. Магчыма, сітуацыя зменіцца, калі на тэрыторыі комплексу пачнуць дзейнічаць паркінгі. Двор хоць і поўны аўтамабіляў, у цэлым утульны: акуратна падстрыжаныя газоны, лаўкі, кветкі на вокнах.

Забудоўшчык абяцае, што плошча азелянення комплексу будзе складаць палову тэрыторыі. Відавочна, што гэта трэба, бо мікрараён атачаны ажыўленымі трасамі і чыгункай.

**СП**

**Кампанія «Юнівест-М»**

буйны экспарцёр нафтапрадуктаў і дэвелапер. Належыць Анатолю Тарнаўскаму, супраць якога ЕС увёў эканамічныя санкцыі. Намесніцай дырэктара працуе Ганна Лукашэнка, нявестка кіраўніка дзяржавы.

**Калонія №1**

была заснаваная ў 50-я гады XX ст. У 2006 было прынята рашэнне аб яе расфармаванні. У 2011 большасць будынкаў былой калоніі былі знесеныя. У розныя гады тут адбывалі пакаранне маладафронтавец Аляксей Шыдлоўскі, дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання з апазіцыі Уладзімір Кудзінаў і Андрэй Клімаў.





## Сцісла

### Без растваральнікаў няма сальда

Пасля прыпынення схемаў экспарту растваральнікаў і разбаўляльнікаў сальда замежнага гандлю таварамі ў ліпені паменшала ў 18 разоў. У ліпені сальда склала ўсяго $23,2 мільёна супраць $431 мільёна месяц таму. Пры гэтым у прыведзеных лічбах не ўлічваюцца нафтавыя мыты (150—200 мільёнаў), якія Беларусь вяртае ў расійскі бюджэт.

### Новых банкнотаў па 10 і 20 рублёў не будзе

Нацбанк спыніў выпуск самых дробных банкнот, наміналам 10 і 20 рублёў. Разлічыцца імі ў крамах можна будзе да канца лютага 2013 года. Зрэшты, набыць за такія маленькія грошы немагчыма нічога.

### Ермакову ацанілі

Старшыня Нацбанка Беларусі Надзея Ермакова ўвайшла ў топ-7 найгоршых кіраўнікоў цэнтрабанкаў у рэйтынгу, які апублікавала міжнародная арганізацыя Global Finance. Найгоршага банкіра знайшлі ў Аргенціне, а найлепшы працуе ў Канадзе.

### У Заслаўі будуюць гіпермаркет

NVV Group плануе збудаваць такія гандлёвыя цэнтры ва ўсёй Беларусі. Пляц плошчай 5 га размешчаны на ўскраіне мікрараёна-2. Замоўца праекта — ТАА «Прыгарадбудінвест», якое ўваходзіць у склад групы кампаній NVV Group. Гіпермаркет у Заслаўі — не адзіны такі праект у планах кампаніі. Яна мае планы таксама на Баранавічы, Бараўляны (Мінскі раён), Мазыр, Пружаны і Рэчыцу.

### Павышана тарыфная стаўка першага разраду

1 верасня тарыфная стаўка першага разраду ў Беларусі павышана з 210 тысяч да 225 тысяч рублёў (на 7%). Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў № 769 ад 20 жніўня. Тарыфная стаўка прымяняецца для разліку зарплаты бюджэтнікаў. Гэта ўжо трэцяе сёлета павышэнне.

### Беларусь і Расія пагадзіліся наконт «Саюзкалія»

Расійскі і беларускі акцыянеры Беларускай калійнай кампаніі прыйшлі да пагаднення па прынцыповых пытаннях стварэння «Саюзкалія». Кампанія будзе створана ААТ «Беларуськалій» і ААТ «Уралкалій» на базе ЗАТ «Беларуская калійная кампанія» і зарэгістравана ў Швейцарыі. Да яе пяройдуць функцыі БКК як эксклюзіўнага трэйдара абедзвюх кампаній.

### А доўг Беларусі ўсё расце

Замежны дзярждоўг вырас з пачатку года на $212 млн. На 1 жніўня ён склаў 12 млрд долараў. Гэта невялікая сума, калі параўноўваць з запазычанасцю Грэцыі ці Літвы. Аднак Эстонія і Расія маюць нашмат меншыя даўгі. У беларускім выпадку характэрна, што запазычанасць працягвае расці, хоць краіна ў 2012 рэзка зменшыла аб'ём унутраных інвестыцый.

**ЯМ**

# Трэба любіць маму і коцікаў

Вязаныя шкарпэткі ў спалучэнні з трусікамі. Пра віртуальнае жыццё 20-гадовых беларусак піша **Святлана Пажарава**.

Акунулася ў свет 20-гадовых «дзевачак». Было цікава зразумець, чым жыве наступнае пакаленне. Шляхам вывучэння трох папулярных дзявочых суполак «Укантакце» высветліліся наступныя каштоўныя звесткі.



Ідэальная дзяўчына мусіць мець ідэльную, абсалютна ідэальную фігуру! На ўсіх здымках, над якімі звыкла пішацца штосьці «жызненнае» і «мудрае», вы не знойдзеце ні аднаго лішняга сантыметра таліі, ні кроплі тлушчу. Як з гэтым мірыцца дзяўчыне без прапорцыяў 90-60-90, застаецца загадкай.

Другое — ідэальная дзяўчына мусіць мець доўгія валасы. Нават не абмяркоўваецца. На твары ў яе кіло мэйкапу і пастаянны прыліплы duckface, які мусіць сімвалізаваць свабоду, непасрэднасць і прывабнасць (надзьмутыя вусны — гэта ж так мімімі!).

Найпапулярнейшая форма адзення — цёплыя вязаныя шкарпэткі ў спалучэнні з трусікамі і світарам ці майкай. Лепей, канечне, швэдар, бо тады выглядаеш больш безабароннай. Кеды і шпількі — таксама тру. У наяўнасці павінен быць маленькі ружовы макбук і тэлефон блэкберы.

Усяляк вітаецца сцярвознасць, бо гэта крута! Класці на ўсіх болт таксама кул! З жыццёвых мудрасцяў: «Дарагія пляткаркі, свой рот будзеце адкрываць на ўзроўні шырынкі, а не ў мой бок!», «Звычка? — Звычка ў мяне матам лаяцца, а мозг выносіць — гэта маё жыццё». Але! Пры гэтым



трэба любіць маму і коцікаў! На маму і коцікаў сцярвознасць не распаўсюджваецца.

Таксама ідэальная «дзевачка», паводле вышэйзгаданых кам'юніці, мусіць быць бездаказна закаханая ў брутальнага мача. Мача павінен быць нахабны, сарамлівыя і нясмелыя рамантыкі ідуць лесам. «Мне падабаецца такі мужчына, які можа заткнуць мне рот адным позіркам!»

Але каханне часта безадказнае, бо які мача будзе ўсур'ез сустракацца з дурненькай 20-гадовай «малыхай»? І яна піша яму смскі, а сабе статусы «ўкантакцік», і плача, плача і генеруе тоны «афарызмаў»: «На табе столькі поглядаў, а ты думаеш пра яго», «Велізарнае багацце пісаць камусьці «я цябе кахаю і сумую» і ведаць, што гэта яму трэба» і гэтак далей да бясконцасці. Каменты сяброўвачак прыкладаюцца.

У такіх суполках, дарэчы, ад 300 тысяч удзельніц. А назвы іх вельмі красамоўныя: «Я ведаю, як я табе адпомшчу. Я за цябе замуж выйду!», «Тры метры над узроўнем неба | Я цябе хачу», «На**й пяшчоты», «Калі кахаеш — хопіць толькі погляду».

# Суд выселіў Агурбаш з шасціпакаёўкі былога мужа

Спявачка не змагла пераканаць суддзю, што яе **шлюбны кантракт падроблены**.

Пасля разводу з 58-гадовым кілбасным баронам 42-гадовая беларуская прыгажуня засталася без жытла. Цяпер яна павінна пакінуць шыкоўную шасціпакаёвую кватэру ў цэнтры Масквы.

Падрабязнасці справы паведаміла расійская газета «Московскій комсомолец». Пасяджэнне па просьбе адвакатаў магната праходзіла ў закрытым рэжыме. Вядома, што Агурбаш вырашыла прыйсці ў суд сама: у цёмных акулярах, з надбайна забранымі валасамі, яна першай павіталася з прысутнымі журналістамі і ўвайшла ў залу.

Выступаючы з прамовай перад судом, артыстка з цяжкасцю стрымлівала эмоцыі, а пры канцы заплакала.

«Мікалай Агурбаш падарыў мне шасціпакаёвую кватэру, каб я разам з дзецьмі пераехала з Беларусі ў Расію. Я за свой кошт яе адрамантавала і абставіла, а цяпер ён мне заявіў, што я павінна адтуль выехаць. І дзе цяпер мне жыць з трыма дзецьмі? — са слязамі на вачах прамаўляла артыстка. — Ягоны сын ужо прыходзіў і выганяў мяне з майго ж дому. Чатыры гады таму яны (сям'я Мікалая Агурбаша) без майго ведама выпісалі мяне з кватэры. Я моцна плакала і літаральна прымусіла прапісаць назад».

Паводле яе словаў, шлюбная дамова была падпісана дзесяць гадоў таму ў гасцёўні, у хаце, як простае ўнутрысямейнае пагадненне, на якім, дарэчы, настойвалі трое дарослых дзяцей мужа, баючыся, што спявачка будзе прэтэндаваць на іх спадчыну.

Зорка паскардзілася суду, што пасля разводу засталася без сродкаў да існавання.

Праўда, і падчас сямейнага жыцця бізнэсовец не вельмі песціў малодку. Паводле яе словаў, кватэры і аўтамабілі, падораныя дочкам, былі запісаныя на іх. Муж мог у любы момант заблакаваць крэдытныя карткі жонкі. Акрамя таго, Анжаліка Агурбаш сцвярджала, што экс-муж ёй пастаянна пагражае.

Адвакатка пазоўніцы Людміла Айвар настойвала, што шлюбны кантракт не быў натарыяльна завераны, бо на ім няма пячаткі, а подпіс не належыць Анжаліцы.

Акрамя таго, абарона прасіла суд аб почырказнаўчай экспертызе, але суддзя ў гэтым адмовіў. «Мы лічым, што рашэнне незаконнае, і будзем яго абскарджваць», — сказала адвакат.

Па прагнозах спявачкі, Мікалай Агурбаш спачатку пазбавіць яе маёмасці і сродкаў да існавання, а затым адбярэ дзіця.

«Нягледзячы ні на што, я ўсё роўна буду змагацца», — адзначыла артыстка.

**Сяргей Гезгала**



# Беларускія праграмісты рыхтуюцца знішчыць манаполію Skype

Праграму прыдумалі ў Ізраілі, але праца над стварэннем вядзецца **ў Мінску і Брэсце**.

Бізнэс-выданне Bloomberg Businessweek апублікавала вялікі артыкул, прысвечаны рынку беларускіх IT-кампаній, што прапануюць адносна танныя паслугі па стварэнні якасных праграм. У цэнтры гісторыі — аплікацыя Viber, якую называюць «знішчальнікам Skype».

Насамрэч Viber прыдумалі ізраільскія бізнэсоўцы, якія да Беларусі маюць невялікае дачыненне. Затое стварaецца праграма ў Мінску, дзе знаходзіцца офіс кампаніі, і брэсцкім філіяле.

«У Viber каля 40 супрацоўнікаў у Беларусі, і ўсе яны мільярдэры ўжо цяпер — калі лічыць у мясцовых рублях», — жартуе выданне.

Viber, распрацаваны яшчэ 3 гады таму, дазваляе камунікаваць з дапамогай галасавой сувязі, тэкставых паведамленняў і абмену малюнкамі цалкам бясплатна, у тым ліку з мабільніка.

Цяпер у аплікацыі болей за 100 мільёнаў карыстальнікаў. Гэты факт дазваляе стваральнікам праграмы называць яе «забойцам Skype»: маўляў, праграма зручнейшая за стары сэрвіс. Акрамя гэтага сэрвіс раздражняе мабільных аператараў, бо карыстальнікі замест тэлефанавання праз звыклы галасавы сэрвіс выкарыстоўваюць IP-тэлефанію.

У месяц беларускі праграміст зарабляе ў сярэднім ад 1000 да 2000 даляраў.

**Сяргей Гезгала**

## Сціслa

### Затрымалі ўладальніка «Данькаў-клуба» Юрыя Данькова

Сведкам гэтага быў Цімох Дранчук. Ён прысутнічаў, калі Юры Данькоў прыехаў на працу, праз хвіліну зайшлі пяцёра чалавек у камуфляжы і масках, а таксама група следчых з галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаваным злачынствам і карупцыяй МУС. Данькову прад'явілі пастанову на затрыманне і вобшук у працоўных памяшканнях.

### Сідорскаму прысвоена званне «Ганаровы грамадзянін Гомеля»

Рашэнне было прынята на 17-й сесіі Гомельскага гарадскога Савета дэпутатаў. Ганаровае званне экс-прэм'еру прысвоена за вялікі асабісты ўклад у захаванне і развіццё эканамічнага патэнцыялу Гомеля.

### «Подзвіг Эмамалі Рахмона» выдадзены па-беларуску

Такую кнігу накладам у 300 асобнікаў надрукавала беларускае выдавецтва «Кнігазбор». Кнігу напісаў таджыкска-беларускі тандэм аўтараў, у які ўваходзяць Ато Хамдам і Леанід Чыгрын.

**ЗП**

# У мінскіх беларускамоўных гімназіях — аншлаг

**У Навагрудку і Гродне будуць беларускамоўныя класы.**

«Набор прайшоў цудоўна. Мы набралі два класы па 22 і 23 вучні, хоць звычайна набіраем па 20 у кожны клас», — падзяліліся поспехамі ў 23-й мінскай гімназіі.

«Сёлета мы набралі чатыры класы па 20 вучняў», — паведамілі «Нашай Ніве» ў мінскай беларускамоўнай 4-й гімназіі.

Навагрудская школа №7 у гэтым годзе набрала 6 чалавек у 1 клас з беларускай мовай навучання. «Мы вельмі рады, што бацькі адгукнуліся», — расказалі ў адміністрацыі школы.

А вось у Гродне была пададзена ўсяго адна заява ад бацькоў, якія захацелі аддаць дзіця ў беларускамоўны клас. «Але будзем вучыць па-беларуску», — сказала завуч пачатковай школы № 32 Валянціна Багдановіч.

Затое парадаваў гродзенскі дзіцячы садок №45, дзе сёлета адчынілася першая і адзіная ў горадзе беларускамоўная група з 9 дзетак.

У Брэсце сёлета набор у беларускамоўныя 1-я класы не адбыўся. У гомельскай гімназіі № 36 імя І. Мележа таксама. «Але мы не губляем надзеі. Будзем абавязкова прапаноўваць бацькам беларускамоўнае навучанне і налета», — кажуць у адміністрацыі гімназіі. Выхаваўчая праца, школьныя мерапрыемствы, афармленне кабінетаў тут ладзяцца па-беларуску. На сёння ў гімназіі імя І. Мележа па-беларуску вучацца тры класы—2б, 3б і 4б.

**Сямён Печанко**



1 верасня ў гімназіі №23 Мінска.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Мінадукацыі хоча скараціць школьнікам летнія канікулы

**Каб разгрузіць навучальны год і павялічыць колькасць урокаў.**

Пра гэтага гаварылі і міністр адукацыі Сяргей Маскевіч, і ягоны намеснік Васіль Будкевіч.

Такія заявы ўжо паспелі выклікаць неадназначную рэакцыю грамадства. Зрэшты, калі Мінадукацыі і прыбярэ «тыдзень-другі» адпачынку ў чэрвені, дык нават тады беларускія летнія канікулы застануцца аднымі з самых доўгіх у свеце.

Пытанне, ці паўплываюць падобныя рэформы на якасць навучання. Шматлікія даследаванні амерыканскіх педагогаў паказалі, што прамая карэляцыя паміж часам знаходжання вучня ў школе і ўзроўнем ведаў практычна не заўважная. Якасць залежыць ад таго, як навучаць, а не як доўга гэта рабіць.

З такім меркаваннем згодныя і беларускія настаўнікі. «Стварэцца ўражанне, што спецыяльна прыдумляюць «праблемы» (насіць школьную форму ці не, 10 гадоў навучання ці 11 і г.д.), каб адцягнуць увагу ад галоўных пытанняў: няякасных падручнікаў, непрадуманых праграм, жудаснага становішча настаўнікаў, якія не маюць аніякай вагі ў нашым грамадстве», — кажа рэпетытар Яўген Лівіянт.

«Скарачэнне канікул на якасць ведаў аніяк не паўплывае, бо гэта — пытанне формы, а не зместу адукацыі». «Трэба змяняць стаўленне да дзяцей, саму атмасферу школы. Яна агрэсіўная, няўважлівая да дзіцяці. Ад гэтага будзе больш карысці, чым ад працягласці канікулаў», — упэўнена настаўніца гісторыі вышэйшай катэгорыі Наталля Ільініч.

**Аксана Рудовіч**

## Школьныя канікулы: як у іншых

У «Кодэксе аб адукацыі» зацверджаныя не менш як 30 дзён адпачынку цягам навучальнага года, а таксама 10–12 тыдняў летніх канікул. Большасць жа замежных школьнікаў сядаюць за парты ў сярэдзіне жніўня–пачатку верасня і скначаюць заняткі ў канцы чэрвеня: у Аўстрыі, Канадзе, Чэхіі, Даніі, Славакіі школьнікі адпачываюць летам каля 8–10 тыдняў.

Рэкардсменамі па самых кароткіх летніх вакацыях з'яўляюцца Японія, Аўстралія, Германія, Вялікабрытанія і Кітай: там школьнікам выдзелена каля шасці тыдняў летняга адпачынку. З улікам таго, што навучальны год у многіх з гэтых краін падзелены на семестры і трыместры (а не чвэрці), агульная колькасць дзён адпачынку меншая за беларускую ў паўтара разу.

Статыстыка на баку якасці, а не працягласці: фіны паказалі адны з найлепшых вынікаў (першае месца па матэматыцы і другое па чытанні) у даследаванні 2006, праведзеным паміж 15-гадовымі школьнікамі з 57 краін свету. Гэта пры тым, што гадавая праграма фінскіх школ утрымлівае ў сярэднім на 200 гадзін менш за іншыя краіны.

Трохмесячны перапынак у занятках захаваўся ў асноўным у краінах камуністычнага лагера: Літве, Расіі, Украіне.

**Кірыл Хілько**

## Дэпутат Глаз прапануе скасаваць гімназіі і ліцэі

**«Карупцыя, расслаенне грамадства, нізкія вынікі на алімпіядах», — кажа народны абраннік.**

Дэпутат палаты прадстаўнікоў Анатоль Глаз 30 жніўня на прэс-канферэнцыі выказаў меркаванне, што ў Беларусі трэба скасаваць гімназіі і агульнаадукацыйныя ліцэі.

Паводле яго слоў, сёння гэтыя ўстановы адукацыі «ўвайшлі ў моду». На навучанне гімназіста вылучаецца на 35% больш сродкаў, чым на школьніка, аднак вынікі гімназій на алімпіядах ніжэй чаканых.

Акрамя таго, існаванне гім-назій і агульнаадукацыйных ліцэяў стварае «рэзкае расслаенне» ўзроўню агульнай сярэдняй адукацыі ў краіне: у гэтых установах канцэнтруюцца лепшыя вучні і настаўнікі. «Гэта значыць, мы ідзём па шляху «захаднізацыі» школы, рэзкага расслаення, палярызацыі, а з гледзішча палітыкі нашай дзяржавы гэта няправільна. Мы павінны прапаведаваць прынцыпы савецкай школы», — сказаў Глаз.

Ён таксама лічыць недапушчальным правядзенне экзаменаў у гімназіі для выпускнікоў чацвёртых класаў. Арганізм у дзяцей яшчэ не сфармаваны, і экзамены для іх — залішняя нагрузка.

Яшчэ адзін дэпутат Уладзімір Здановіч заявіў, што зараз у гімназіі «пачала перамяшчацца праблема карупцыі»: кожны бацька спрабуе туды аддаць сваё дзіця, нават з іншага мікрараёна. Як вынік, у гімназіі сталі прымаць дзяцей з досыць пасрэднымі здольнасцямі і нават з адсутнасцю жадання вучыцца.

«Калі ўжо ствараць ідэальна роўныя ўмовы для дзяцей у Беларусі, то ад гімназій трэба адмовіцца, — лічыць Здановіч. — А калі падбіраецца чалавек 10–15, якія жадаюць навучацца на больш высокім узроўні, і ёсць настаўнікі, якія могуць працаваць на гэтым узроўні, стварайце ўнутры школы гімназічныя класы».

**БелаПАН**

### Лукашэнка: Настаў час скараціць набор у ВНУ

«Пастаўлена задача за год адрэгуляваць гэты працэс. Гэта будзе больш сумленна перад людзьмі — набіраць столькі студэнтаў, колькі нам неабходна. Таму на працягу гэтага года ў спакойнай абстаноўцы мы прымем адпаведнае рашэнне», — сказаў кіраўнік дзяржавы. Сёлета быў вялікі недабор у недзяржаўныя ВНУ, а таксама на некаторыя спецыяльнасці ў дзяржаўных.

### Фотафакт




GENERATION.BY

**Мінскія студэнты патрабуюць навучання па-беларуску. Акцыя прайшла 3 верасня на плошчы Якуба Коласа.**

# Помнік расійскаму цару ў аграгарадку Крайск

Мікалая II ушанавалі за **«шматгадовую нябесную дапамогу»**.



У вёсцы Крайск Лагойскага раёна ля царквы стаіць бюст апошняга расійскага цара Мікалая II. Подпіс на пастаменце сведчыць, што пастаўлены ён як «падзяка святым царственным вялікамучанікам за шматгадовую нябесную дапамогу» Крайскаму прыходу.

Бюст пастаўлены з ініцыятывы мясцовага святара, айца Сяргея, да гадавіны знішчэння царскай сям'і. «Мікалай II для яго вельмі важная персона», — адзначаюць у Крайску. Тады ж царкоўная брама была ўпрыгожаная іканапіснымі выявамі кананізаваных Расійскай праваслаўнай царквой вялікамучанікаў Раманавых.

**Сяргей Мікулевіч**

**Фотафакт**




**Мастакі адзначылі ў Смаргоні дзень нараджэння кіраўніка Смаргонска-Вілейскага незалежніцкага падполля Расціслава Лапіцкага. Мастакі прайшліся з карцінамі па вуліцах горада. Пяць чалавек затрымалі. Ноч яны правялі ў пастарунку. На раніцу штраф у мільён рублёў далі Алесю Цыркунову. Суды над астатнімі, у тым ліку Алесем Пушкіным, перанесены на 10 верасня.**

**Алесь Дзергачоў**

# «Здам пакой студэнтцы. Аплата — сэкс»

Чалавек, чые кантакты былі пазначаныя на сайце абвестак, кажа, што гэта **злы жарт**.

«Малады чалавек, 23 гады, возьме на падсяленне студэнтку. У якасці аплаты — сэкс 2-3 разы ў тыдзень». Такая абвестка была размешчана на сайце irr.by 25 жніўня.

У ёй былі пазначаныя нумар тэлефона і адрас электроннай пошты.

Наша журналістка патэлефанавала па нумары, пазначаным у абвестцы, прадставілася студэнткай. Як высветлілася, мы не першыя, хто звярнуўся да ўладальніка. Але аніякай кватэры хлопец не здае. Ён не ведае, як яго тэлефон і мэйл трапілі на сайт.

«Гэта злы жарт. Я нават не магу ўявіць, што можа за ім стаяць». Хлопец пакуль не ведае, ці будзе неяк рэагаваць на здарэнне.

Супрацоўніца сайта прынесла прабачэнні за памылку. «Такія выпадкі ў нас здараюцца надзвычай рэдка», — падкрэсліла яна. Неўзабаве абвестку з сайта прынялі.

**Аксана Рудовіч, Сямён Печанко**

# Памёр акцёр, вядучы праграмы «Чакай мяне» Ігар Кваша

Яму было **79 гадоў**.

Ігар Кваша нарадзіўся ў 1933 у Маскве. У 1941 сям'я была вымушана з'ехаць у эвакуацыю. А бацька — доктар хімічных навук Уладзімір Кваша — сышоў на фронт. З вайны ён так і не вярнуўся. Пазней артыст згадваў, што яны доўга не маглі даведацца пра лёс бацькі.

Кваша скончыў школу-студыю МХАТ. Два гады быў акцёрам МХАТа. З 1957 ён становіцца акцёрам маскоўскага тэатра «Современник».

Шмат гадоў акцёр збіраў усемагчымую інфармацыю пра Іосіфа Сталіна.

«Ён мяне заўсёды цікавіў, яшчэ з ранняй маладосці. Я да гэтага часу не магу разабрацца ў псіхалогіі гэтай пачвары». Сваёй найлепшай роляй ён называў якраз вобраз Сталіна ў фільме «Пад знакам Скарпіёна».

Апошнія гады асноўнай справай Квашы была перадача «Чакай мяне», якую ён лічыў вельмі важнай і патрэбнай.

У снежні летась акцёр выступіў з крытыкай Пуціна, Мядзведзева і «Адзінай Расіі», заклікаўшы прыходзіць на мітынг апазіцыі 24 снежня.

**Зміцер Панкавец**





**Камертон Сяргея Ваганава**

# Тапаміміка

1 верасня сярод традыцыйнага свята ведаў адбылася цырымонія, наўрад ці заўважаная большасцю мінчукоў: кіраўніцтва Мінгарвыканкама і гарсавета надавала парку на праспекце Любімава імя Міхаіла Паўлава. Такім чынам кіраўніцтва ўшанавала памяць аб сваім былым начальніку, які ў 2010 заўчасна памёр.

Не буду аспрэчваць заслугі Міхаіла Паўлава перад горадам, які пры ім, як сцвярджаюць ягоныя паслядоўнікі, «набыў сучасны выгляд еўрапейскай сталіцы». Хай сцвярджаюць. Мяне цікавіць іншае: якое дачыненне маюць да ініцыятывы Мінгарвыканкама самі мінчукі? Яны што, паабівалі там усе прыступкі, патрабуючы ўвекавечыць імя былога гараданачальніка? Ці паставілі свае подпісы пад адпаведнымі лістамі, як зрабілі гэта ў адносінах да Васіля Быкава, прапануючы назваць сталічную вуліцу ягоным імем?

Мінску амаль тысяча гадоў. Але хто з безлічы гараданачальнікаў ушанаваны хаця б нейкім сціплым чынам? Яны што, нічога дзеля горада не рабілі? Хто з сучасных гараджан хаця б каго помніць?

Ад самага пачатку савецкіх гадоў усё было прыдатным для бруднай справы перайменавання: вуліцы, плошчы, шахты, заводы, вёскі і цэлыя гарады. Калі б камуністычнае праўленне, як тое ўяўлялася бальшавікам, насамрэч доўжылася стагоддзі, «ад Буга да Курыл» не засталося б аніводнага карэннага імя, магчыма, нават іменаў народаў і краін.

Нехта, мабыць, лічыць, што няма нічога страшнага ў тым, каб жыць у недарэчнасці накшталт плошчы Калініна, горада Дзяржынска, яек імя Надзеі Канстанцінаўны Крупскай, вуліц Свярдлова, Валадарскага, не кажучы ўжо пра вуліцу Бяды. Ці пра вуліцы з прозвішчамі людзей, аб якіх увогуле мала хто ведае. Таго ж Ісідара Любімава... Што ж такога добрага, векапомнага зрабіў для горада гэты расійскі бальшавік, калі ўлетку 1918 затрымаўся ў Мінску на пару месяцаў?

Ёсць пэўная, але нейкая вар'яцкая логіка ў тым, што жыхары праспекта, які носіць яго імя, будуць адпачываць у парку імя чарговага наменклатурнага начальніка.

Звыкнецца?

Яно і праўда — звыкнецца. Але і на гістарычных крушнях звыкаецца жыць, і ў доме для хворых на галаву. І думаць пры гэтым, што і ты нармальны, і ўсё навакольнае жыццё...

Адным з такіх звар'яцелых на бясконцых савецкіх святах быў дзядок, які жыў у невялічкім гарадку на вуліцы Леніна і які быццам сустракаў правадыра ў красавіку 1917 на Фінляндскім вакзале. Жыў ён бедна, калі не сказаць па-жабрацку, днямі спаў на печцы пад бруднымі коўдрамі, калі-нікалі злазіў адтуль і, збіраючыся пад ненавіснымі поглядамі сваякоў на чар-

## Яно і праўда — звыкнецца. Але і ў доме для хворых на галаву звыкаецца »

говы піянерскі збор, апранаўся ў абвешаны бліскучымі значкамі фрэнч з цёмна-зялёнай дыяганалі. Гаварылі, што падчас рэпрэсій ён застаўся жыць толькі таму, што сам нястомна даносіў. У рэшце рэшт, яго так зацягалі па піянерах і старонках газет, што, калі паміраў, прасіў пахаваць яго ля Крамлёўскай сцяны, а гарадок, дзе жыў, назваць ягоным імем. Так і напісаў у тэстаменце: пахаваць... назваць... Нехта з райкама партыі, каб хаця б нейкім чынам выканаць апошнюю волю нябожчыка, прапанаваў пабудаваць у гарадку нешта падобнае да той самай сцяны...

Але ці не з могілак ля Крамлёўскай сцяны пачалася тая псіхічная хвароба?!

На мой погляд, ёсць нешта брыдкае, зняважлівае да людзей у тым, каб называць вуліцы і г.д. іменамі дзяржаўных дзеячаў, палітыкаў, вайсковых і цывільных начальнікаў, іншых розных асоб, хаця б трыкроць вядомых. За вельмі рэдкім, безумоўна, выключэннем, калі на імені стаіць бясспрэчны знак гістарычнай якасці для той ці іншай мясцовасці ці краіны. Помнікі, музеі — іншая справа, тут кожны можа самастойна вырашыць, шанаваць ці не шанаваць імя. А вось жыць з імем, якое навязана табе чыімсьці там густам ці палітычнымі поглядамі, непрытульна, а то і не ў змогу...

Такім чынам, тое, што завецца тапанімікай, тым, чым у розных мясцінах Зямлі пазначаюць сваю непаўторнасць у часе і прасторы нармальныя людзі, у нашых палесцінах застаецца **тапамімікай**, нейкай палітычнай грымасай, скажэннем, а то і напоўніцу адмаўленнем ад натуральнасці...

Сам я, дзякуй Богу, жыву на вуліцы Берасцянскай, што атрымала гэту назву ў памяць пра птушку берасцянку, якая спявала тут некалі, а потым зляцела...

*kamerton_41@mail.ru*

# Галівуд, кажаны і сабакі

**Барысаўскі БАТЭ ў трэці раз прабіўся ў групавы этап Лігі чэмпіёнаў.**



Аляксандр Глеб абраў Барысаў, а не заходнееўрапейскія клубы.

Чатыры апошнія гады ў галоўным клубным турніры Еўропы існуе асобны адбор, які многія паспелі назваць «квотай імя Мішэля Плаціні». Ён разлічаны на каманды з не самых моцных футбольных дзяржаваў.

Таму на шляху БАТЭ і трапляюцца чэмпіёны Македоніі, Літвы, Аўстрыі ці Даніі, а не трэцячацвёртыя каманды Англіі, Іспаніі ці Расіі. Гуляць з другімі было б нашмат складаней.

Барысаўскі клуб гэтай магчымасцю карыстаецца выдатна. Можа быць, нават лепш, чым хто з «малых» клубаў Еўропы. Два выхады ў групу Лігі чэмпіёнаў (у 2008 БАТЭ выходзіў на агульных умовах) і столькі ж у групу Лігі Еўропы. Можна сказаць, што наш флагман — ужо пастаянны ўдзельнік найбуйнейшых турніраў.

Апроч спартыўных вяршыняў, гэта прыносіць камандзе неблагія грошы. Напрыклад, за выхад у групу Лігі чэмпіянаў наш чэмпіён сёлета зарабіў 9 мільёнаў еўра (сума гадавога бюджэту каманды). Гэтыя поспехі дазваляюць БАТЭ купляць добрых гульцоў, плаціць ім годны заробак, будаваць новы стадыён ля Печаў (пры дапамозе Мінаблвыканкама), развіваць інфраструктуру клуба.

БАТЭ стаў першым айчынным спартовым клубам, які ператварыўся ў бізнэс-праект. Барысаўцам удаецца зарабляць грошы. Хаця працэнты прыбытку ад продажу квіткоў ці атрыбутыкі яшчэ зусім мізэрныя. Сістэма зарабляння БАТЭ хісткая, але яна адзіная дзейная на абшарах сінявокай.

Генеральны дырэктар БАТЭ Анатоль Капскі кажа, што сёння каманда здольная існаваць самастойна, без дапамогі дзяржавы ці спонсараў.

Напрыклад, хакейнае мінскае «Дынама» толькі марыць сёлета выйсці на самаакупнасць 12%. Адпаведна, мінулыя сезоны яна была яшчэ меншай.

> **БАТЭ — адзіны спартыўны клуб краіны, што выйшаў на самаакупнасць**

## Расклад гульняў

**19 верасня: «Ліль» — БАТЭ**
**20 лістапада: БАТЭ — «Ліль»**

**2 кастрычніка: БАТЭ — «Баварыя»**
**5 снежня: «Баварыя» — БАТЭ**

**23 кастрычніка: БАТЭ — «Валенсія»**
**7 лістапада: «Валенсія» — БАТЭ**

### Фіналіст Лігі чэмпіёнаў

У мінулы чацвер у Манака барысаўцы даведаліся, хто прыедзе восенню на гульні ў Мінск. Гэта «Баварыя», «Валенсія» і «Ліль». Паўбаронца беларускага чэмпіёна Рэнан Брэсан адзначыў, што група слабейшая, чым летась («Барселона», «Мілан», чэшская «Вікторыя»), але заняць у ёй трэцяе месца будзе больш складана. Такі парадокс.

Мюнхенская «Баварыя» ў залішніх прадстаўленнях не мае патрэбы. Гэтай вясной каманда гуляла ў фінале Лігі чэмпіёнаў.

Матч з «Чэлсі» атрымаўся звышдраматычны. «Баварыя» правісела на варотах Пятра Чэха ўсю гульню. Забіла гол за сем хвілін да фінальнага свістка, але геніяльны Дзідзье Драгба зраўняў лік. «Баварыя» не забіла пенальці ў дадатковы час, а потым выйгравала ў серыі пасляматчавых адзінаццаціметровых. Але кубак над галавой усё адно падняла каманда Рамана Абрамовіча.

Дарэчы, расійскі бізнэс хацеў прыйсці і ў «Баварыю». Тытульным спонсарам каманды намагаўся стаць «Газпрам». Урэшце не зраслося.

«Баварыі» ўвогуле, калі не шанцуе, то люта. Хто не памятае фінал Лігі чэмпіёнаў—1999 супраць «Манчэстэр Юнайтэд». Мюнхенцы выйгравалі ўвесь матч, кантралявалі паядынак, але за тры кампенсаваныя арбітрам хвіліны «чырвоныя д’яблы» забілі двойчы і забралі трафей. Гульцам «Баварыі» толькі і засталося, што змахваць слёзы.

Увогуле апошні раз Лігу чэмпіёнаў каманда з Мюнхена выйгравала ў 2001. У фінале яны перамаглі яшчэ аднаго нашага суперніка — «Валенсію».

У футбольным свеце «Баварыя» мае мянушку ФК «Галівуд». Справа ў тым, што гульцы і трэнеры каманды шмат сварыліся паміж сабой, скандалы нярэдка пераходзілі ў прэсу. Гэта быў перыяд з 1979 па 1998. Тым не менш, імя прыжылося.

У сённяшнім складзе «Баварыі» нямала зорак — Ноер, Баатэнг, Лам, Бадштубер, Рыберы, Робен, Мюлер, Швайнштайгер, Цімашчук, Пісара, Гомес. Тым не менш, у апошнім чэмпіянаце мюнхенцы былі толькі другімі, саступіўшы дортмундскай «Барусіі».

### Вечна трэція

Апошнія тры сезоны «Валенсія» займала ў чэмпіянаце нязменнае трэцяе месца пасля «Рэала» і «Барселоны». Іншым часам каманду называюць яшчэ «чэмпіёнам астатняй Іспаніі». Вядома, змагацца з грандамі не па сілах нікому.

Зрэшты, калі «Рэал» і «Барсу» трасе, то і сама «Валенсія» можа скарыстацца момантам. Гэтак клуб станавіўся чэмпіёнам краіны ў 2002 і 2004 гадах.

«Валенсію» яшчэ называюць «кажанамі». Справа ў тым, што гэтая рукакрылая істота намаляваная на эмблеме каманды, а туды трапіла з гарадскога герба. Ёсць дзве легенды, чаму валенсійцы так шануюць кажаноў.

Паводле першай, кажан папярэдзіў мясцовага караля пра небяспеку ад арабскіх воінаў. Паводле другой, страла, што ляцела ў караля, трапіла ў кажана. Гэтак звярок выратаваў жыццё манарху.

Матч з БАТЭ «Валенсія» згуляе на стадыёне «Месталья». Гэта арэна з’явілася яшчэ ў 1923. Клуб пачаў будаўніцтва «Новай месталы», але пачаўся крызіс.

Лідарамі «Валенсіі» з’яўляюцца Раберта Сальдада, Вісэнтэ Гуаіта, Серхіа Каналес, Адзіль Рамі.

### Французскія догі

«Ліль» — не самы вядомы французскі клуб. Хаця каманда і выйграла першы пасляваенны чэмпіянат краіны ў 1946. У наступны год клуб быў другім. У 1950-я «Ліль» яшчэ пяць разоў выйграваў медалі, а потым амаль на паўстагоддзя трапіў у забыццё.

З пачаткам 2000-х каманда з поўначы Францыі зноў выходзіць у абойму вядучых клубаў. Бронза» ў 2001, срэбра — у 2005, золата і кубак — у 2011.

«Ліль» падобны з БАТЭ тым, што не можа прымаць гасцей у еўракубках на родным стадыёне, які не адпавядае нормам УЕФА. Каманда гуляе ў горадзе Вільнёў-д’Аск. Мянушка ў «Ліля» — «паўночныя догі».

Лідарам каманды з’яўляецца Рыа Мавуба. Ураджэнец Анголы нядаўна атрымаў выклік у зборную Францыі.

Дарэчы, «Ліль» ужо сустракаўся з беларускім клубам. У 2004 у Кубку Інтэртота. Супернікам каманды было мінскае «Дынама». Дома «Ліль» перамог 2:1, а вось у Беларусі была зафіксаваная нічыя — 2:2.

**Зміцер Панкавец**

## Сцісла

### Справа Астапчук прадоўжана

Нацыянальнае антыдопінгавае агенцтва (НАДА) працягне расследаванне справы беларускай штурхальніцы ядра Надзеі Астапчук. «Расследаванне працягнута ў сувязі з новымі абставінамі», — гучыць афіцыйная заява. Астапчук перамагла на Алімпіядзе ў Лондане, але потым у яе крыві знайшлі забароненыя прэпараты.

### Кандрацьеў: Не падабаецца, калі абшукваюць з ног да галавы

Галоўны трэнер зборнай Беларусі па футболе Георгій Кандрацьеў напярэдадні старту адборачнага турніру чэмпіянату свету-2014 прызнаўся, што не наведаў бы матчы зборнай, калі б быў заўзятарам. «Не пайшоў бы я на матчы супраць Іспаніі і Грузіі. Але не праз грошы. Мне не падабаецца, калі мяне абшукваюць з ног да галавы».

### Майкл Фэлпс выйграў 100 тысячаў даляраў у покер

Плывец-рэкардсмен і ўладальнік 22 алімпійскіх медалёў Майкл Фэлпс працягвае перамагаць, нават пайшоўшы з вялікага спорту. Адправіўшыся пасля Алімпіяды расслабіцца ў Лас-Вегас, Фэлпс выйграў сто тысяч даляраў у покер.

### «Гомель» узяў Кубак

У фінале хакейнага Кубка Беларусі ў Бабруйску сышліся «Гомель» і жлобінскі «Металург» (чэмпіёны краіны). Ва ўпартай барацьбе «рысі» заваявалі трафей – 3:2. «Гомель» атрымаў перамогу ў Кубку ў чацвёрты раз у гісторыі.

**ЗП**

# «Мяне ўчатырох адкаталі...»

У Віцебскай вобласці салдата **давялі да самагубства.**

«Мне патэлефанавалі і паведамілі, што сын скончыў жыццё самагубствам. Але мы не паверылі, што Жэня па сваім характары такое мог зрабіць сам... Колькі мы тэлефанавалі яму, колькі разоў ездзілі, ён ні разу ні на што не скардзіўся», — расказала мачаха Яўгена Рудака.

Смерць маладога чалавека зафіксавалі 26 жніўня. У гэты дзень, па словах мачахі, Яўген атрымаў звальненне, але затым яго анулявалі. «Нейкі лейтэнант (мы не ведаем прозвішча) нібыта сказаў: «Вашыя салагі зусім абарзелі». Маўляў, кожныя выхадныя ў звальненне ходзяць». Што было далей, родныя не ведаюць. Але праз нейкі час хлопец патэлефанаваў сябру і сказаў: «Мяне ўчатырох адкаталі».

**«Сын хлюпікам не быў»**

«За чатыры дні да смерці ён званіў бацьку і прасіў перадаць грошы на новыя берцы. Але ў нас трое дзяцей — аднаго ў школу адправіць трэба — папрасілі пачакаць крыху. Потым зноў патэлефанаваў і папрасіў пазычыць грошай. Мы не зразумелі, толькі цяпер падказалі, што так званыя «дзяды» патрабуюць ад «салагаў» добрую каву, шакаладныя цукеркі...» — кажа мачаха Яўгена.

Паводле заключэння судмедэкспертаў, салдат павесіўся. У заключэнні сказана, што ні ўнутраных, ні знешніх пашкоджанняў не было. Родныя Яўгена кажуць пра драпіну на лобе, на шчацэ, пра разадраныя кончыкі пальцаў. Яны ўсё зафіксавалі на фота. Прасілі правесці паўторную экспертызу. Але ім адмовілі.

«Нам адразу ў часці сказалі, што ён не вытрымаў вайсковых нагрузак. Але ж сын хлюпікам не быў. Ён тэлефанаваў і расказваў, што спачатку з непрывычкі на маршкідках у берцах ногі націраў. Але ўвесь час казаў: «Што гэтая армія — бегаем, у вайнушку гуляем». І гэта лухта, што ён нагрузак не вытрымліваў».

Жанчына кажа, што пачула і іншую версію. Нібыта сын даведаўся, што яго родная маці памерла. І сам з гора зрабіў сабе смерць. «Але, ведаеце, ён не помніў яе. Яму было два гадкі, калі я пачала яго выхоўваць. Ён хацеў на родную маці паглядзець, калі вырас. Хацеў паехаць, але перадумаў. Сказаў тады: «Мне гэта не трэба. Ты — мая мама».

Яўгену было 22 гады. Ён паходзіў са шматдзетнай сям'і з Гарадоччыны. У войска яго прызвалі ў маі.

Упраўленне Следчага камітэта Віцебскай вобласці пачало расследаванне па справе давядзення да самагубства ваеннаслужачага 103-й асобнай мабільнай брыгады (Віцебск).

**Сяргей Макарэвіч**



Яўген праслужыў у дэсантніках толькі тры месяцы.

**Загінуў вайсковец**

На палігоне ў Брэсцкай вобласці загінуў ваеннаслужачы сіл спецыяльных аперацый. Падчас правядзення планавых заняткаў па баявой падрыхтоўцы ён атрымаў раненне, ад якога і памёр. Крымінальная справа заведзена па ч.2 арт. 463 КК (парушэнне правілаў абыходжання са зброяй, якое пацягнула за сабой па неасцярожнасці смерць чалавека).

# Ён быў увесь у татуіроўках

Басіст гурту Litvintroll **памёр падчас канцэрта.**

2 верасня ў Гарадскім цэнтры культуры Гомеля падчас рок-фестывалю Mass Medium 2012 загінуў удзельнік гурту Litvintroll Алег Клімчанка. Паводле слоў відавочцаў, бас-гітарыст выйшаў на сцэну і хутка паваліўся. Адразу загаварылі пра магчымы ўдар токам. Медыкі праводзілі рэанімацыйныя мерапрыемствы, але беспаспяхова.

Следчыя адмаўляюць такую версію смерці. Па інфармацыі Следчага камітэта, бачнага ўзгарання ці задымлення не назіралася. Пры першасным аглядзе на целе загінулага не было выяўлена слядоў паражэння электрычным токам. Прызначана судова-медыцынская экспертыза. Праводзіцца праверка электраабсталявання.

Алег Клімчанка нарадзіўся ў 1976. Выступаў у складзе гуртоў Ossuary, Partyzone і Litvintroll. Па словах прадзюсара Віталя Супрановіча, гэта была «асоба каларытная, было бачна, як ён любіць гэтую справу».



З музыкам сябраваў вакаліст гурту «Зніч» Алесь Таболіч. «Ён быў увесь у татуіроўках — такога скандынаўскага тыпу чалавек. Але ў душы быў нармальны, сціплы хлопец. — расказаў Таболіч. — Мы пазнаёміліся даўно — на «Славянскім базары», калі Алег працаваў на тэлебачанні, і тыдзень з ім тусаваліся. Пасля на сцэне гралі разам. Нядаўна ў госці да яго ездзіў — Алег паказваў сваю новую кватэру. І вырашаў, як пасля яе абставіць. Хацеў жыць, як кажуць, і творчасцю займацца, і сям'ёй. У яго засталіся маладая жонка і 3-гадовы сын, падобны да бацькі...

Ён працаваў у моргу. І цяпер яго вязуць на працу, толькі ў іншай якасці. Наколькі ведаю, у яго здароўе было не вельмі добрае. Але ён кінуў бухаць — гэта дакладна. І для мяне дзіўна, калі дужы малады чалавек памірае.

Думаю, трэба будзе правесці нейкую акцыю падтрымкі ці канцэрт дабрачынны, каб падтрымаць яго сям'ю».

**Кастусь Матушыч**

**Litvintroll**

фолк-метал гурт, заснаваны ў 2005 вакалістам і дударом Андрэем Апановічам і ўдарнікам Сяргеем Тапчэўскім. Тэксты гурту — на беларускай і англійскай мовах, як правіла, маюць казачны або фэнтэзійны сюжэт. У 2009 выйшаў дэбютны альбом гурту Rock'n'Troll.



**29 жніўня каля пасёлка Ратамка ў Мінскім раёне знайшлі цела дзяўчыны, пры якой былі дакументы 23-гадовай Ксеніі Маркевіч. Апошняя знаходзіцца ў вышуку з 17 чэрвеня. Бацькі Ксеніі адмянілі паніхіду, бо не апазналі сваю дачку — чакаюць вынікаў судова-медыцынскіх экспертыз. Маці дзяўчыны заявіла «Народнай волі», што гэта было спланаванае забойства, і калі міліцыя не выкрые злачынцу, яна пра ўсё распавядзе грамадскасці.**

# Начальніца цягніка «Мінск—Варшава» правозіла безбілетнікаў

Аплаціць праезд прапаноўвалася **непасрэдна ў вагоне.**

29 жніўня ў Брэсце былі затрыманыя начальніца і правадніца цягніка Мінск—Варшава, а таксама 10 пасажыраў чацвёртага вагона. Прычынай затрымання паслужыла інфармацыя аб безбілетніках.

У «зайцоў» узялі тлумачэнні і адпусцілі. А на начальніка цягніка і правадніцу ў Следчым камітэце завялі крымінальную справу па артыкуле «Крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі». У іх выявілі амаль 500 даляраў і 30 еўра, якія тыя сабралі з пасажыраў. Па гэтым артыкуле прадугледжана пакаранне ў выглядзе абмежавання свабоды да 5 гадоў альбо пазбаўленне волі да сямі гадоў.

Тацяна, якая некалькі разоў за праезд да Варшавы плаціла не ў касу, а на рукі правадніцы, расказала, як гэта адбывалася. «Падыходзіш да правадніцы і пытаешся: «Можна ўпісацца?» Яна называе нумар купэ. Праз нейкі час, як адправімся, заходзіць і трэба разлічыцца. Цана з Мінска да Варшавы складала 45 даляраў. Можна было даваць, напрыклад, 50 — рэшта заўсёды была. Прымалі і ў іншай валюце — толькі беларускія рублі не бралі. Чаму чацвёрты вагон? Бо там знаходзіўся начальнік цягніка».

**СМ**

## Сціcла

### Затрыманы падазраваны ў распусце

28 жніўня ў лесе каля Сцяпянкі невядомы ўчыніў дзеянні сэксуальнага характару да дзяўчынак сямі і васьмі гадоў. Усё гэта зламыснік здымаў на фотакамеру. Чалавек тое пабачыў і паспрабаваў затрымаць распусніка. Але ён збег, пакінуўшы фотаапарат, дзе захаваўся здымак самога гвалтаўніка. Фота было размешчана ў інтэрнэце, пасля чаго злачынцу апазналі.

### Экс-дырэктара «Пінскдрэва» чакае экстрадыцыя

76-гадовага Ларана Арыніча арыштавалі ў польскім Радаме. Затрыманне адбылося пасля звароту прадстаўнікоў беларускага аддзялення Інтэрпола да польскай паліцыі. Арыніч знаходзіцца ў міжнародным вышуку як абвінавачаны па справе аб пажары на «Пінскдрэве» ў кастрычніку 2010.

### Зубр атакаваў грыбніка

Інцыдэнт здарыўся ў лесе каля Поразава (Свіслацкі раён). Мясцовы жыхар адправіўся ў грыбы. У гушчары ён убачыў за 4 м ад сябе зубра. Калі мужчына паспрабаваў сысці, зубр наблізіўся, падхапіў яго за куртку на рогі і стаў трэсці. Звер некалькі разоў ударыў капытамі мужчыну ў грудзі.

### За хабар вызваляў ад крымінальнай адказнасці

Супрацоўнікі КДБ затрымалі старшага інспектара ўпраўлення дэпартамента фінансавых расследаванняў КДК Беларусі па Гродзенскай вобласці пры атрыманні ім хабару ў 570 даляраў. Паводле следства, на працягу 2011–2012 супрацоўнік фінансавай міліцыі неаднаразова атрымліваў у якасці хабару ад аднаго з жыхароў Гродна розныя таварна-матэрыяльныя каштоўнасці і грошы за вырашэнне пытання аб зацягванні следства і спыненні расследавання распачатай у дачыненні да яго крымінальнай справы.

**КМ**

# «Сівая легенда» ў Оперы: людзі, а не монстры

Працяг са старонкі 1.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Нацыянальная опера без нацыянальных опер

Творчы саюз Смольскага і Караткевіча стварыў зусім не савецкую оперу, ці не адзіную з савецкіх, што не састарэла маральна (выключэнне можа скласці хіба «Францыск Скарына» таго ж Смольскага), на што і звярнуў увагу тэатр у пошуку беларускай оперы.

У нас, бадай, адзіная Нацыянальная опера ў свеце, якая не ставіць нацыянальных опер... Апошнія пастаноўкі (не лічачы твораў С. Картэса, Я. Глебава, В. Капыцько, В. Кузняцова, беларускіх па грамадзянстве іх аўтараў, але не нацыянальных па змесце) былі вельмі даўно. З буйных нацыянальных твораў тэатр паставіў у 1992 небяссрэчнага ў мастацкім сэнсе «Князя Наваградскага» А. Бандарэнкі (лібрэта В. Іпатавай), а яшчэ раней — «Дзікае паляванне караля Стаха» Уладзіміра Солтана (1989), выдатны спектакль у пастаноўцы Вячаслава Цюпы, які дасюль трымаецца ў рэпертуары тэатра. Ці ўсё ж не трымаецца? У мінулым сезоне ён не ішоў ні разу, а ў пазамінулым — два разы.

### Прынцып касы

Рэпертуарная палітыка нашага тэатра грунтуецца чорт ведае на якіх прынцыпах, самы відавочны з якіх — прынцып касы; усе астатнія фармуляванню не паддаюцца. Згодна з прынцыпам касы, нават адзін з найлепшых спектакляў — «Тоска», — пастаўлены толькі два гады таму, ужо не варты таго, каб давацца часцей чым раз на паўгода. Затое вульгарнае «Вяселле Фігара», кашмарная пастаноўка «Кармэн» ці такая ж «Травіяты» ідуць ледзь не штомесяц. І гэта ў той час, калі Опера заангажавала аўтарытэтнага пастаноўшчыка Міхаіла Панджавідзэ, уладальніка «Залатой маскі», які, дарэчы, ужо паставіў на нашай сцэне «Набука», «Тоску», «Аіду», «Севільскага цырульніка» і вось цяпер — доўгачаканую «Сівую легенду».

Оперы цяпер яўна ўласцівая непавага да беларускага. Абноўлены капітальным рамонтам тэатр займеў энергічнага дырэктара Уладзіміра Грыдзюшку, які, як гэткі Гаці-Казаца ці Рудольф Бінг, шчыра зычыць свайму тэатру найлепшага. Самым значным праектам Грыдзюшкі трэба лічыць праект філіялаў тэатра ў рэгіёнах. Разам з тым, нават зводная афіша тэатра, якая гадамі друкавалася па-беларуску і вісела на кожнай тумбе, друкуецца цяпер па-расійску. Сайт тэатра беларускую версію мае, але яна не асноўная. Усе праграмкі, афішы друкуюцца на «обшчапанятнам». Канферанс — таксама на «обшчапанятнам». Беларускія арыі не гучаць нават на зборных канцэртах. Традыцыя ладзіць раз на два гады хаця б рытуальныя канцэрты з беларускіх твораў ляснула.

У выніку наведнік галоўнага тэатра краіны не адчувае, што ён сапраўды ў Нацыянальнай оперы. У кіеўскай, віленскай, пражскай оперы такое адчуванне ёсць.

Кантрастнымі выглядаюць паводзіны галоўнага рэжысёра Міхаіла Панджавідзэ. Прыехаўшы сюды некалькі гадоў таму, Панджавідзэ пачаў вывучаць беларускую мову, практыкаваць яе і «Сівую легенду» Караткевіча чытаў у арыгінале. Гэта чарговы раз пацвярджае тэзіс пра тое, што самая моцная русіфікацыя чыніцца самімі беларусамі.

### Справа жыцця

У новай пастаноўцы ў галоўных партыях задзейнічаныя сапраўдныя «нобілі» беларускай оперы — любімцы публікі, народныя артысты Беларусі Сяргей Франкоўскі і Уладзімір Пятроў, цяперашняя прыма оперы, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Ніна Шарубіна, а таксама выдатны барытон Станіслаў Трыфанаў і іншыя добрыя артысты (Кацярына Галаўлёва, Эдуард Мартынюк, Наталля Акініна).

Дырыжор-пастаноўшчык спектакля — заслужаны артыст Украіны Віктар Пласкіна, які ў адным з інтэрв'ю прызнаўся, што пастаноўка «Сівой легенды» для яго ледзь не справа жыцця, маўляў, ён толькі для гэтага і прыехаў у Беларусь. Гэты таленавіты, тэмпераментны, але нестабільны дырыжор зарэкамендаваў сябе ў Беларусі як вельмі супярэчлівая асоба, аднак ягоная праца над «Тоскай» можа лічыцца ўзорнай.

Усе на прэм'еру! Балазе, квіткоў яшчэ трохі засталося.

**Сяргей Русецкі**

гісторык, адданы прыхільнік беларускага опернага мастацтва.

# У Расіі гінуць унікальныя беларускія роспісы







**Сцяна з роспісамі магла б упрыгожыць любы музей: адрэстаўраваць яе цалкам магчыма.**

За зіму царквы ў **Стайках на Пскоўшчыне** можа не стаць.

У вёсцы Стайкі, што ў Невельскім раёне Пскоўскай вобласці, у руінах былога ўніяцкага храма захаваліся ўнікальныя роспісы — іх аналагаў у Беларусі не існуе. Аднак яны могуць знікнуць ужо ў бліжэйшыя месяцы.

Музыка Яраш Малішэўскі пабываў у Стайках і расказаў «Нашай Ніве», чаму і як трэба ратаваць роспісы.

«Царква ў жахлівым стане, — кажа спадар Малішэўскі. Тое, што пакуль стаіць, доўга не пратрывае, гэта відавочна».

Драўляны ўніяцкі барочны храм Пакрыва Багародзіцы паўстаў у Стайках у другой палове XVIII ст. Пасля далучэння гэтых земляў да Расійскай імперыі царква была перароблена ў праваслаўную. За савецкім часам у будынку зрабілі клуб і збожжасховішча, а ад 1990-х ён стаяў безгаспадарны.

Храм прыйшоў у заняпад і пачаў абвальвацца: не стала даху, вежаў і перакрыццяў, абрынулася сцяна. Дах трымаецца толькі над алтарнай часткай.

Пад тым дахам і захаваліся роспісы, якія яшчэ можна адрэстаўраваць. «Роспісы, калі мы іх бачылі, уяўлялі сабою шчыт, набраны з драўляных панэляў, — расказвае Малішэўскі. — Вышэй былі тры абразы: леваруч — святога Пятра, праваруч — Багародзіцы і, магчыма, Хрыста ў цэнтры. Гэтых трох ужо няма. Захаваўся роспіс вышэй: анёлы трымаюць карону, анёлы з шалямі і трубою, Бог Саваоф у аблоках. Прысутнічае шмат «аптычнасці», таго, што ілюзяністычным жывапісам імітуе архітэктуру і разьбу, як, прыкладам, у Будславе».

Фарба на роспісах часткова абсыпалася, часткова ўзнялася ад вільгаці. На сцяну трапляе дождж, снег, пыл і вецер, ці перажывуць роспісы зіму — невядома.

«Параўнаць роспісы можна з тымі, якія былі ў драўляных цэрквах Віцебска, Оршы, Слуцка, Мсціслава — але там усё было знішчана за савецкім часам. Усё гэта Усходняя Беларусь — «зачышчаны край», дзе помнікаў засталося так мала. А ўжо такога — і пагатоў. Стайкі — адзіны ацалелы прыклад мясцовага жывапісу тых часоў».

Адрэстаўраваць роспісы пакуль нескладана, як і перавезці іх з руінаў у які-небудзь з музеяў. Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны запаведнік рабіў захады па ратаванні роспісаў, аднак пакуль вынікаў няма.

**Юрась Ускоў**

# «Для атрымання месца ў інтэрнаце даход на чалавека павінен складаць 500 тыс. руб.»

Хачу расказаць сваю гісторыю...

Мая дачка, студэнтка чацвёртага курса Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта, чарговы раз засталася без месца ў інтэрнаце. На сайце ўніверсітэта намеснік дэкана спадар Гапанюк прапанаваў усім, хто не атрымаў інтэрнат, прыйсці да яго на асабісты прыём 28 і 30 жніўня з 16.00 да 18.00 па папярэднім запісе.

Я, як і многія іншыя, была вымушаная прыехаць ва ўніверсітэт значна раней за прызначаны час з цалкам аб'ектыўных прычынаў (расклад чыгуначнага транспарту). Уявіце маё здзіўленне, калі апоўдні перад дзвярыма спадара Гапанюка ўжо знаходзілася каля 20 чалавек. Яны пражываюць у розных рэгіёнах Беларусі і часта не могуць дазволіць сабе прыбыць на асабістым транспарце. Таксама малаверагодна, што яны маюць дастаткова сродкаў, каб бавіць гадзіны чакання ў іншым, больш прыемным месцы. Як выявілася, многія людзі чакалі прыёму зранку. Да 16-й гадзіны ля кабінета спадара Гапанюка сабралася ўжо каля паўсотні чалавек.

Відавочна, што за 2–5 хвілін вылучанага часу немагчыма належным чынам выслухаць, зразумець і дапамагчы ўсім гэтым людзям. Не выклікае сумнева, што спадару Гапанюку было вядома пра натоўп людзей за дзвярыма яго кабінета, аднак гэта зусім не перашкодзіла яму пачаць прыём роўна ў 16.00 і ні хвілінай раней. Мабыць, яго зусім не бянтэжылі такі гармідар у калідоры ўніверсітэта.

Заходжу на прыём. Высвятляецца, што адзінай прычынай адмовы маёй дачцэ ў месцы ў інтэрнаце з'яўляецца высокі даход на чалавека ў сям'і — каля мільёна.

У мяне дзве дачкі-студэнткі. Абедзве вучацца ў Мінску. Няўжо спадар Гапанюк лічыць, што можна годна жыць на гэтую суму, пры гэтым аплачваючы койка-месца ў здымнай кватэры ($75–100)?

Спадар Гапанюк сцвярджае, што для атрымання месца ў інтэрнаце даход на чалавека павінен складаць 500 тыс. руб. Абурае яшчэ і тое, што пра адсутнасць месца ў інтэрнаце паведамляецца ў 20-х днях жніўня (хоць дакументы падаюцца ў канцы мая), калі зняць жыллё па прымальнай цане практычна немагчыма.

**Наталля Тамашэвіч**

# Закон для ўсіх адзін?

17 жніўня выпадкова стаў сведкам антыалкагольнага «флэшмобу» на набярэжнай у Гомелі. Маладзёны ў колькасці 50 чалавек шпацыравалі ўздоўж Сожа і пілі: хто сок, хто мінералку.

З агульнай масы моладзі вылучаліся 2 дарослыя мужчыны, якія трымаліся крыху адасоблена, і адзін з іх даваў указанні ўдзельнікам «флэш-мобу», рабіў здымкі ўдзельнікаў, сярод якіх былі і вядомыя ў Гомелі апазіцыянеры. Да свайго здзіўлення не ўбачыў ніводнага міліцыянта ці прадстаўніка спецслужбаў з відэакамерамі.

Па дарозе дадому ўвесь час думаў: няўжо ўлады адчапіліся ад людзей і не пераследуюць іх, бо новы закон «Больш за трох не збірацца» ўжо даўно быў прыняты і апрабаваны ў дзеянні.

Прыйшоўшы дадому, пашукаў у «Кантакце» больш падрабязную інфармацыю пра акцыю і яе арганізатараў, якіх наглядна ведаў, і адкрыў для сябе простую рэч: акцыю праводзілі і курыравалі прадстаўнікі РНЕ, якія апошнім часам для маскіроўкі адзелі на сябе маску змагароў за здаровы лад жыцця — «Славянская прабежка», але сімвалы і рыторыка засталася ранейшая: Імперскі сцяг, Белая раса, мы ўсе рускія. Можа, таму іх і не чапалі?

**Кастусь Жукоўскі, Гомель**

# Проста пад вокнамі памёр чалавек

**Сядзеў на лавачцы** (вул. Сердзіча) і самлеў.

Хуткая і рэанімацыя не здолелі яго выратаваць, хоць і дастаткова доўга біліся над ім, спрабуючы вярнуць да жыцця. Навіна пра смерць аднаго з мясцовай «кампаніі» алкашоў хутка пранеслася праз увесь раён, бо тым часам да другога пад'езда пачалі збірацца тутэйшыя алкашы.

І, хутчэй за ўсё, нават гэта не прымусіць іх задумацца і змяніць сваё жыццё. Ужо ўвечары пад тым жа пад'ездам яны збяруцца і як заўсёды будуць бухаць, складаючы байкі пра тое, што скорая прыехала занадта позна.

Сумна і сорамна, што такія выпадкі здараюцца пастаянна, а колькасць людзей каля віннагарэлачнай крамы толькі павялічваецца.

**Надзея, Мінск**

# Пілоты мы
## (да Дня авіяцыі)

Мне пашчасціла лётаць на самалёцезнішчальніку ў маладосці. Вельмі шкада, што маё лётнае шчасце хутка скончылася: спісалі па здароўі.

Але засталіся ўспаміны, ад якіх нікуды не дзецца. Аб сябрах лётчыках, аб інструктарах, аб камандзірах, якія ў той час усе былі баявымі, прайшлі вайну. Гэта былі людзі нейкай асаблівай закваскі, з вельмі павышаным пачуццём чалавекалюбства.

Не ўсім даў Бог імкненне тое
Да зор, да неба, вышыні…
Усё жыццё нібыта мроя
Карціць, хоць слёзы праглыні.

Бо сам у далёкай маладосці
У небе многа раз бываў,
Штурвал трымаў, як цуглі злосці,
А сэрцам неба абдымаў.

І незваротнасць тых палётаў
Баліць-смыліць амаль штодня,
А ўсе сучасныя пілоты
Браты мае, мая радня.

Пілоты кажуць: навучыцца
Нельга неба палюбіць.
Пілотам трэба нарадзіцца,
І ўсё жыццё пілотам жыць.

І кожны раз я тонкай ніццю
Лаўлю ў небе гул цяжкі,
І доўга так след у блакіце
Сачу, як белыя сцяжкі.

Жадаю я таму пілоту,
Каб крылы ўпэўнена няслі,
У фінале кожнага палёту —
Пасадкі мяккай на зямлі.

Малю Тварца за наша неба,
Каб у ім не сталіся дымы.
Літвінам трэба больш, чым хлеба,
Каб у ім лятаў толькі мы.

**Ян Грыб, Мінск**

# Беларуская глыбіня. **Адкрыццё Хрыста**

Піша **Павел Севярынец**.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

«НН» друкуе лісты Паўла з цыкла «Беларуская глыбіня».

*Бог, Які сказаў заззяць з цемры святлу, азарыў нашыя сэрцы пазнаннем славы Божай у асобе Ісуса Хрыста.*
***Другое да Карынцянаў 4:6***

Спытай беларуса пра Бога — і ўбачыш чалавека, які раптоўна прачнуўся. Ускапіўся, тарашчыць вочы і не разумее, дзе ён.

«Ісус?.. — крыва ўсміхаецца, бліішчыць залатым зубам муляр Лёнь, павольна ачомваецца. — А... Ён мне не перашкаджае.»

«Ці веру... я... у Бога?.. — задуменна, па складах, спрабуе «ўехаць» токар Валянцінавіч. — Гэта пытанне, як табе, сказаць... якое навука яшчэ... точна не ўстанавіла».

«Не, штосьці-то ё, — зваршчык Анатоль апускае вочы, цяжка думае, чухае сівую галаву і пераключаецца ўбок. — Але — ну дзе справядлівасць, а?! Вось паглядзі...»

Асэнсаванне прабіваецца на тварах скрозь забыццё, павольна, ненадоўга — і на нейкі момант у вачах прабліскае водсвет чагосьці светлага, прыгожага... Страчанага...

**Калі Беларусь адкрывалася Ісусу — яна нараджалася і адраджалася »**

Так хочацца, каб яны не аплывалі зноў у сваю змрочна зморшчаную кому!

Але — махне рукой, адвернецца ці выдыхне, вось такія, маўляў, пірагі — і брык. Зноў напаўжывы.

Мы вечна губляемся, пачуўшы самае важнае пытанне. А між тым, штотыдня паўтарае наш баптыстгарманіст, каторы прапаведуе ў камендзе, гэта галоўнае — вызначыцца, дзе ты хочаш правесці вечнасць.

У справах жыцця і смерці нават няверуючыя набываюць прытомнасць перад Ім. Але, быццам у вадзе, у іншай стыхіі — а ці можна тут хаця б дыхаць?! — спохапам надзімаюць шчокі, мычаць ды ліхаманкава кубатураць, куды б адсюль дзецца.

Заўсёды, калі рэч у праўдзе, свабодзе, справядлівасці, заўсёды, калі час надломваецца ў змаганні дабра і зла, калі людзі пакутліва напружваюцца, высільваюцца, церпяць з астатніх сіл і пад невыносным напорам грэху і гвалту здаюцца — усяму народу даводзіцца кожны раз наноў адкрываць адну простую і глыбокую ісціну. Чалавечымі сіламі *гэта* адолець немагчыма. Сумарнага зараду зла, якое тоіцца ў сэрцы кожнага з нас, насамрэч хопіць, каб у трэскі разнесці ўсю Беларусь. І цемра ўнутры чалавека, не пераможаная Богам, будзе тлець роўна столькі, колькі трэба для канчатковага вызначэння: хочам мы вечнага жыцця — ці вечнай смерці.

Аднойчы такое даводзіцца перажыць і чалавеку, і пакаленню, і цэламу народу.

Гэта адкрыццё прыходзіць пасля вялікага болю, расчаравання ці спусташэння, як цуд. Як спатканне з каханнем першага позірку. Раптоўна. Працінае сэрца так, што ты трапечаш, бы злоўлены матылёк.

І ціха.

Ты раптам спахопішся: у тваім жыцці Нехта ёсць.

Ты пазнаеш Яго ў цёплых вачах верніка — напарніка, які бярэцца падмяняць цябе, хворага, на працы; у вінаватых усмешках жанчын, якія пасля набажэнства ў царкве абвешваюць цябе пакункамі з ежай; у раптоўным болю параненага на разгрузцы жалеза «хіміка», які заціскае рукой сіфон крыві і тут жа сціпае зубы, каб не лаяцца.

Ты пазнаеш Яго ў Беларусі — незямным позірку азёраў, што глядзяцца ў вышыні, у пяшчотнай смузе, якая сціпае межы зямлі і неба; у міры і супакоі, што закалыхваюць дыханнем лагчынаў ды ўзгор'яў любую далечыню; у адчуванні прысутнасці і пранізлівай светліні; у такіх пакорлівых і такіх патрабавальных вачах беларускіх дзетак.

Ісус з тым, каму цяжка, хто церпіць несправядліва, хто плача ў адчаі. Ісус — з бяссілымі. Тымі, хто разумее, што самі змяніць мы краіну не зможам, бо не ў сілах нават змяніць сябе.

Ісус нараджаецца ў нашым сэрцы — маленькі, з вераю, — пакутуе ў змаганні з грэхам, паміраe на крыжы нашага цела, калі мы выбіраем зло.. і ўваскрасае пад бел-чырвонабелым сцягам, скрываўленай плашчаніцай — калі мы даём Яму перамагчы.

Выжыванне беларусаў як нацыі залежыць толькі ад таго, ці набярэцца ўрэшце крытычная маса людзей, гатовых даводзіць выявіцца ў сабе Ісусу Хрысту.

Калі Беларусь адкрывалася Ісусу — яна нараджалася і адраджалася. У X ст., з прыняццем хрысціянства, расквітнела Полацкае княства. Пасля XII ст. эпохі вялікіх Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Аўрамія Смаленскага — расце і мацнее ВКЛ. У XVI ст. з Рэфармацыяй і адначасовым абуджэннем Касцёла ды праваслаўя ўспыхвае Залаты век Беларусі — са Скарынам, найлепшымі з Радзівілаў ды Львом Сапегам... У XX ст. напачатку і напрыканцы — два нацыянальныя Адраджэнні на хвалі духовых абуджэнняў.

Як гэта ні дзіўна, большасці сапраўдных герояў беларускай гісторыі мы і не ведаем. Тых, хто штодня шэптам вымольвае ад знішчэння цэлыя гарады; тых, чые ўлюбёныя Богам сэрцы захлынаюцца крывёю за нас, хворых, жорсткіх, раздражнёных; тых, чые невымерны глыбіні вочы каўтаюць неба, наталяючы ўвесь народ...

Што мы наогул ведаем пра іх? Тое, што яны і сярод праваслаўных, і ў касцёлах, і ў малітоўных дамах? Тое, што яны і ёсць празрыстай таямніцай Цела Хрыстова — Ягонай Сапраўднай Царквой? Тое, што яны пазнаюць Ісуса адзін у адным як зміргнуць — і гэта дае ім слёзы любові і натхнёныя ўсяночныя, пашырае іх сэрцы да памераў цэлай краіны ды распасцірае перад імі зорныя шляхі?

Колькі іх, сённяшніх беларускіх святых? Дзесяцера, дзеля якіх Госпад не знішчае нашыя Садом і Гамору? Сем тысячаў стоеных, верных Яму, як у гісторыі прарока Ілліі?

Беларусу, які сядзіць у сабе, бы ў зачыненай хаце, дробна калоціцца ад страху ды роспачы ці змучана ные ад бессэнсоўнасці працы, пара *адчыняцца*.

Адчыняць дзверы, у якія Ён дзень і ноч ледзь чутна стукае.

Калі адкрываеш Яму сваё сэрца — у табе самім раптам прагледзіць Ягонае. Калі задыхаешся ад грэху — ірві сэрца, як кашулю на грудзях. І расхінай, намаганне за намаганнем, справа за справаю, усю краіну, невядомую Беларусь пад белымі крыламі сцяга Хрыста.

Бо Беларусь збавіць не снайпер.

Беларусь збавіць Ісус.

*Куплін*

Дом Пазняка, самы закінуты замак краіны і **турма-псіхбальніца** ў крэпасці XVI стагоддзя…

# Ад татарскага Іўя да замкавай Ліды

Бабіна лета дазваляе яшчэ некалькі разоў праехацца па прыгожых мясцінах. «Наша Ніва» прапануе нескладанае падарожжа па Іўеўшчыне, Воранаўшчыне і Лідчыне.

## Татарская сталіца

Першая кропка нашай паездкі — Іўе, гэта каля 120 км ад Мінска па гродзенскай трасе. Горад спрадвеку быў адным з цэнтраў пражывання татараў у Беларусі. Яны прыйшлі сюды з дазволу Вітаўта яшчэ ў пачатку XV стагоддзя.

Таму самае цікавае і незвычайнае, што можна знайсці ў горадзе, — мясцовая мячэць XIX стагоддзя. Яе давядзецца шукаць сярод прыватнай забудовы ў пары кіламетраў ад габрэйскага цэнтра горада. На ўсялякі выпадак удакладнім адрас — Савецкая, 76. Калі вам пашанцуе, можна заспець дома імама і папрасіць яго адчыніць мячэць. Дарэчы, ва ўсёй Беларусі засталося толькі дзве дарэвалюцыйныя мячэці — у Іўі і ў Навагрудку.

Другая славутасць горада — старажытны касцёл Пятра і Паўла, які калісьці быў кляштарным. Каля яго знаходзіцца статуя Ісуса Хрыста, на фоне якой фатаграфуюцца ўсе турысты. Рэч у тым, што скульптура — паменшаная копія вядомага Ісуса, усталяванага на гары ў Рыа-дэ-Жанэйра.

У Іўі некалькі кавярняў і рэстаранаў на цэнтральнай плошчы, яшчэ некалькі ёсць па дарозе да касцёла. Аднак, прыехаўшы ў выходны дзень, будзьце гатовыя, што палова гэтых месцаў будзе зачыненая на спецабслугоўванне.


HIV-IV.LIVEJOURNAL.COM

**Навошта Рыа, калі ёсць Іўе?**

## Самае апазіцыйнае мястэчка

З Іўя рушым у бок Суботнікаў па дарозе Н6797. Тут нас цікавіць неагатычны касцёл святога Уладзіслава, у крыпце якога знаходзіцца магільны склеп Умястоўскіх. Другая славутасць — родная хата Зянона Пазняка. Кажуць, раней у шэрагах БНФ была ледзь не палова местачкоўцаў. Дзе знаходзіцца хата, пакажа любы мясцовы жыхар. Шлях просты — за касцёлам павярнуць направа, праехаўшы масток, зноў звярнуць направа перад прыватнай крамай і праехаць проста каля 100 метраў. Хату можна пазнаць па вялікім крыжы перад ёй. У хаце не жыве ніхто, ды і патрапіць усярэдзіну наўрад ці ўдасца. Пасля таго як сёлета ў маі на вясковых могілках пахавалі маці Зянона, Ганну Пазняк, ключы ад хаты забралі з сабой мінскія сябры палітыка.

## Спалены палац

Яшчэ некалькі кіламетраў ад Суботнікаў у бок літоўскай мяжы — і можна палюбавацца палацам Умястоўскіх у Жамыслаўлі, які з'яўляецца паменшанай копіяй Лазенкаўскага палаца ў Варшаве. Некалькі гадоў таму мінскі прадпрымальнік быў гатовы набыць будынак, аднак угода была прызнаная незаконнай. Будынак сёлета пацярпеў ад моцнага пажару, і мясцовыя жыхары перажываюць, што новага інвестара не знойдзецца.

Дарогі наперад няма, таму трэба вяртацца ў Суботнікі. Тут перад кіроўцам паўстае выбар. Можна ехаць наўпрост у Геранёны па дарозе Н6156. Адлегласць складае 15 кіламетраў, але асфальту тут няма. Другі варыят — зрабіць крук праз Ліпнішкі і даехаць да Геранёнаў 40 км па лепшай дарозе.

## Замак, якога няма

На тэрыторыі Беларусі знаходзяцца 12 замкаў. У добрым выглядзе захаваліся тыя, што ў Міры, Нясвіжы, Лідзе. Замак Гаштольдаў у Геранёнах напаткаў іншы лёс. Ён быў разбураны яшчэ ў канцы XVII стагоддзя падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай і больш ніколі не аднаўляўся. Каб уявіць, як выглядаў замак, давя-дзецца добра пафантазіраваць, бо цяпер ад яго засталіся толькі два законсерваваныя кавалкі мураваных сценаў. Мясцовыя жыхары ператварылі іх у сметніцу, а прыезджыя дапоўнілі надпісамі «тут быў...» Шукаць замак трэба ў лесе за касцёлам святога Мікалая, арыентуючыся на таблічку з няўцямнай фразай «рэшткі замка XV—XV стагоддзяў».

Закончыўшы з Іўеўшчынай, самы час ехаць на Воранаўшчыну. Па дарозе можна заехаць у Тракелі, дзе стаіць драўляны касцёл XIX стагоддзя. Ён славуты іконай Божай Маці, якая перажыла два знішчальныя пажары і некалькі войнаў і засталася некранутай. Некалькі гадоў таму яна была каранаваная.

## Мясціны Міцкевіча

У Беняконях знаходзіцца велічны неабарочны касцёл. За ім можна знайсці магілу Марылі Верашчакі, каханай Адама Міцкевіча.

Яшчэ адна вёска, звязаная з жыццём паэта, Бальтэнікі, знаходзіцца ў некалькіх кіламетрах на захад ад Беняконяў. Тутэйшая сядзіба належыла графу Путкамеру, з якім і пабралася шлюбам Марыля. Будынак, у якім знаходзіцца адміністрацыя мясцовага калгаса, выглядае выдатна. Сядзіба магла б прымаць турыстаў, тым больш што рамантычных гісторый, звязаных з ёй, хапае. Каля яе знаходзіцца парк, па якім блукалі Міцкевіч і Верашчака, ёсць і камень, каля якога яны пакляліся заўсёды памятаць адно аднаго. Дарэчы, там і цяпер стаіць лавачка для закаханых.

## У гасцях у псіхбальніцы

Цяпер рушым у адваротны бок, на ўсход ад Беняконяў. Тут, у Гайцюнішках, знаходзіцца адзін з самых цяжкадаступных для турыстаў аб'ект, адзіны ў краіне дом-крэпасць. Яго пабудаваў у пачатку XVII стагоддзя галоўны будаўнік Вільні Пётр Нонхарт, эмігрант з Фландрыі. Дом-крэпасць дагэтуль у добрым стане, шмат у чым дзякуючы таму, што на яго тэрыторыі знаходзіцца бальніца для тых, хто здзейсніў злачынствы ў стане псіхічнай хваробы. Гэта рэжымны аб'ект, аднак для турыстаў часам робяць выключэнні і прапускаюць унутр. Калі пашанцуе, экскурсію можа правесці галоўны доктар.

Галоўная ўмова — не фатаграфаваць суседняе збудаванне за калючым дротам, у якім жывуць небяспечныя хворыя. Гэты будынак ахоўваецца аўтаматчыкамі. А вось у самім доме-крэпасці жывуць пацыенты, якія здзейснілі дробныя злачынствы.

Калі ёсць вольны час, можна праехаць яшчэ некалькі кіламетраў далей, у Канвелішкі (радзіма філосафа і святара Пётры Рудкоўскага) з іх фантастычна прыгожым драўляным неагатычным касцёлам. Аднак вяртацца ў людзі ўсё адно давядзецца праз Беняконі. Адтуль прамая выдатная траса М11 да Ліды, ехаць каля 45 км.

## Замак з нягнуткім графікам працы

Галоўнае ўпрыгожанне Ліды — замак, у якім працягваецца рэканструкцыя. Пачынаць шпацыр па горадзе лепш з яго, бо трапіць унутр можна толькі да 17-й гадзіны. Прыйдзеце пазней — «гасцінныя» бабулькі на ўваходзе проста не пусцяць вас.

Паглядзеўшы замак, можна прагуляцца па Савецкай вуліцы, вакол якой знаходзяцца два астатнія помнікі архітэктуры — Міхайлаўская царква, а таксама Касцёл Узвіжання святога Крыжа.

Праблема са сферай абслугоўвання ў Лідзе тая ж, што ў Іўі і большасці іншых райцэнтраў. Калі вам удасца знайсці, дзе павячэраць у выходны дзень, — вы шчаслівчык. Іначай давядзецца ратавацца ад «спецабслугоўвання» ўжо на трасе па дарозе ў Мінск.

Адно з такіх месцаў — скрыжаванне трасы М6 (Гродна з Мінскам) з Р5 (паварот на Іўе). Большасць дальнабойшчыкаў спыняецца пры дарозе ў кавярні «На ростанях». А вось ззаду ад яе ёсць яшчэ адна някепская кавярня, з хуткім абслугоўваннем і невысокімі цэнамі.

**Ягор Марціновіч**



**Цішыня каля дома-крэпасці ў Гайцюнішках наводзіць жах на турыстаў.**

**Ці стане хата, дзе нарадзіўся Зянон, музеем?**





**Перад палацам у Жамыслаўлі стаіць безгустоўны вайсковы помнік.**




**Самы сумны замак Беларусі — Геранёны.**






**Лідскі замак наступны ў спісе на маштабную рэканструкцыю.**

# Дзень горада

**Да Дня горада 7 верасня ў будынку на пл.Свабоды,15** адбудзецца адкрыццё Мастацкай галерэі народнага мастака Міхаіла Савіцкага.
**8 верасня** на адкрытым паветры перад галоўным уваходам у Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета адбудзецца паказ «Мінск. Музыка. Каханне». У паказе возьмуць удзел сімфанічны аркестр, хор, салісты оперы і балета тэатра. На праспекце Пераможцаў пройдзе свята сярэднявечнай культуры «Мінск старажытны» з удзелам прадстаўнікоў рыцарскіх клубаў (стральба з лукаў па мішэнях, конныя паядынкі, сілавыя практыкаванні, дуэлі і інш).
На вуліцы Маркса выступяць творчыя калектывы, пройдуць шоу-праграмы. Таксама майстры разьбы па дрэве, саломапляцення, вышыўкі, ганчарнага рамяства размесцяцца па вуліцах Рэвалюцыйная і Камсамольская (у рамках святочнага паказу «Мінск — губернскі горад»). У двары Музея гісторыі Мінска выступяць «гарадскія персанажы» — прадстаўнікі мінскай шляхты, гарадавы з губернатарам, дамы і гімназісткі, гандляры, тачыльшчык, кравец і шавец, мастак і кераміст. Пройдзе конкурс пленэрнага малюнка «Мой Мінск старажытны і вечна малады».
Паколькі ў 2012 адзначаецца 130-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, свята «Песняры роднага краю» пройдзе ў скверы імя Янкі Купалы.
У Год кнігі ў Мінскай гарадской ратушы 8 верасня адбудзецца ўрачыстае адкрыццё выстаўкі «Кніга-2012».
У рамках Дня горада будзе праводзіцца фестываль творчасці людзей з абмежаванымі магчымасцямі «Мастацтва жыць, тварыць мастацтва» пры ўдзеле грамадскіх аб'яднанняў і арганізацый інвалідаў. Фестываль пройдзе на пляцоўцы каля Палаца спорту.



## ГАНДБОЛ

### «Дынама» — «Бешыкташ»

**8 і 9 верасня ў Палацы спорту** адбудуцца матчы кваліфікацыі Лігі чэмпіёнаў. Мінскае «Дынама» прыме стамбульскі «Бешыкташ». Туркі, каб сэканоміць, згадзіліся правесці дзве гульні ў Беларусі. 8-га гульня пачнецца ў 18.30, 9-га — 16.00. Білеты — 30 000 рублёў.

## БАСКЕТБОЛ

### Беларусь — Партугалія

**11 верасня ў Палацы спорту** ў рамках адбору да чэмпіяната Еўропы сустрэнуцца зборныя Беларусі і Партугаліі. Пачатак а 19.30. Білеты — 25 000 — 45 000. У Лісабоне нашы перамаглі.

## ФІГУРНАЕ КАТАННЕ

### Minsk Arena Ice Star

**Ад 7 да 9 верасня ў СКС «Арэна»** адбудзецца міжнародны турнір па фігурным катанні Minsk Arena Ice Star.

## КАНЦЭРТЫ

### Прэзентацыя сінгла БАТЭ

**Жоўта-сіні рок ад SUN ROAD-21.** Прэзентацыя сінгла ФК БАТЭ. 7 верасня, клуб Republic (Прытыцкага, 62).

### Ніно Катамадзэ

**Грузінская спявачка выступіць**



**у Мінску 7 верасня ў Robinson Club.** Замова білетаў па тэлефоне (044) 502-11-11.

### Алег Меншыкаў

**Алег Меньшыкаў і яго Аркестр Мары ў фантастычным шоу 12 верасня ў Палацы Рэспублікі.** Цана білетаў — 150 000 — 1 200 000 рублёў.

## ІМПРЭЗЫ

### Белая вежа

**XVII Міжнародны тэатральны фестываль «Белая Вежа-2012» пройдзе ад 7 да 14 верасня.** Асноўнай пляцоўкай па-ранейшаму застаецца сцэна Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы. Гледачы ўбачаць дзве праграмы: у конкурснай часткі будуць паказаны пастаноўкі сусветнай і нацыянальнай драматургіі, эксперыментальнай драмы, пластычнай драматургіі і сучаснай харэаграфіі; у пазаконкурснай — студэнцкія работы прафесіянальных ВНУ і гасцявыя спектаклі.

## ВЫСТАВЫ

### Міракль аб Уршулі

**Музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (Музычны завулак,5)** запрашае на выставу партатыўных лялечных тэатраў «Міракль аб Уршулі». Білет — 10 тысяч рублёў.

### Сюжэты з жыцця

**Выстаўка мастацкага шкла і графікі Людмілы Мягковай і Уладзіміра Мурахвера** «Сюжэты з жыцця» праходзіць у Музеі гісторыі горада (Рэвалюцыйная, 10).

### Colorfest

**Мінскае міжнароднае біенале сучаснага жывапісу Colorfest** праходзіць у Нацыянальнай бібліятэцы. У біенале прымаюць удзел мастакі Украіны, Беларусі, Эстоніі, Малдовы, Латвіі, Літвы і Палесціны. Працягнецца да 10 верасня.

### Zabor

**У парку Чалюскінцаў працуе выстава рэпрадукцый** пад адкрытым небам Zabor. На агароджы, што па правы бок ад цэнтральнага ўваходу ў парк, экспануецца некалькі дзясяткаў прац чатырох беларускіх мастакоў: Руслана Вашкевіча, Сяргея Каваля, Уладзіслава Стальмахова і Віктара Альшэўскага.



### Чэшскі «Краток» прыехаў у Мінск

**Мастацкая галерэя «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл.,1)** запрашае на выставу ілюстрацый да анімацыйнага фільма Krtek, вядомага чэшскага мастака Здэнека Мілера «Чэшскі «Краток» прыехаў у Мінск». Выстава працягнецца да 8 верасня.

### Птушкі

**6 верасня пройдзе прэзентацыя** першай кнігі Насты Манцэвіч «Птушкі». Імпрэза адбудзецца а 19-й па адрасе: вул. Мяснікова, 35 (уваход з вул. Берсана, злева ад крамы «Алеся»).




## ТЭАТРЫ

### 6 верасня

**Оперы і балеты** — «Метамарфозы»
**Тэатр імя Горкага** — «Свабодны шлюб»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

### 7 верасня

**Тэатр імя Горкага** — «Свабодны шлюб»

### 8 верасня

**Тэатр імя Горкага** — «Запіскі стомленага рамантыка»
**Купалаўскі** — «Лістапад. Андэрсен»

### 9 верасня

**Оперы і балета** — «Сівая легенда»
**Купалаўскі** — «Лістапад. Андэрсен»

### 10 верасня

**Оперы і балета** — «Сівая легенда»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»

### 11 верасня

**Оперы і балета** — «Жызэль, ці Віліcы».

### 12 верасня

**Оперы і балета** — «Жызэль, ці Віліcы»
**Тэатр імя Горкага** — «Леў зімой»
**Купалаўскі** — Translations

## КІНО

### Паранармальная анімацыя

**Паранорман** (ParaNorman)
ЗША, 2012, каляровы, анімацыя, 3D
**Рэжысёры:** Крыс Батлер, Сэм Фэл
**Жанр:** Камедыйна-містычная анімацыя
**Адзнака:** 7 (з 10)

Хлопчык Норман здольны бачыць прывідаў і размаўляць з імі. Дзеці кляць з яго, а дарослыя папракаюць. На горад нападаюць зомбі, паўсталыя з магілы ад праклёну вядзьмаркі. Норман павінен спыніць іх, прачытаўшы на магіле ведзьмы казку «Сонная прыгажуня».
Аб'ёмная амерыканская анімацыя — пародыя на фільмы жахаў і баевікі. Зялёныя лялькі выкапваюцца з зямлі, атакуюць дамы і аўтамабілі, вылазяць з унітазаў у школьнай прыбіральні. Мясцовыя хуліганы і прыбіральшчыцы, раззлаваныя паліцэйскія і натхнёныя настаўніцы, зляканыя худыя абжоры складаюць гаманкі свет карціны, дзе парушаны межы паміж памерлымі і жывымі.
Норман — аблавухі дзівак з вялізнымі вачыма. Балбатлівая сястра героя і тоўсты сябар, прыдуркаваты дзядзька і бабуля-нябожчыца — у кожнага яскравы характар і свая доля «ажыўленасці» ў агульным вясёлым вэрхале.
Можна папракнуць дзіцячую анімацыю за містычную тэму, але, нягледзячы на «вусцішныя» абставіны, карціна гаворыць пра старыя канфлікты дзяцей і дарослых. Страхі спараджаюць нянавісць, дараванне — вызваляе. Анімацыйная карціна «Паранорман» хутчэй для дарослых, а не для дзетак.

**Андрэй Расінскі**



# На аграсядзібе «Ганка» з’явіцца музей беларускіх напояў

На Валожыншчыне будуецца **вялікі агратурыстычны комплекс.**



Анатоль Ганец.



Калісьці Анатоль Ганец хацеў нават прадаць свой стары дом на Валожыншчыне, не бачачы перспектыў у вёсцы. А цяпер ператварыў яго, па сутнасці, у адну з самых папулярных аграсядзіб у краіне. «У мяне вялікія планы, — расказвае Анатоль, чыя сядзіба знаходзіцца побач з вёскай Эпімахі на Валожыншчыне. — Хачу зрабіць на гэтым месцы вялікі агратурыстычны комплекс. Некалькі ўчасткаў я ўжо выкупіў, хутка буду заліваць падмурак пад новыя дамы. Таксама адкрыю ў гэтых месцах музей беларускіх напояў і буду сам варыць піва — нават бочкі для гэтай справы ўжо замовіў».

Дадамо, што гастранамічных сядзіб мэтавага прызначэння ў краіне практычна няма. Адзіным выключэннем з’яўляецца сядзіба «Марцінова Гусь», якая знаходзіцца тут жа, у Валожынскім раёне. Ліцэнзію на моцныя і слабаалкагольныя напоі ўласнага хатняга прыгатавання ніхто, акрамя вядомага агратурыстычнага комплексу ў Дудутках, не атрымліваў.

Безумоўна, піва ўласнай вытворчасці, а таксама іншыя напоі, якім будзе прысвечаны будучы музей, здольныя прыцягнуць у сядзібу новых заказчыкаў.

**Tio.by**

# У крамах пачнуць прадаваць пузырысты поліэтылен

Яго лопанне лічыцца **рэлаксатарам і антыстрэсам.**

У крамах Мінска з’явіліся незвычайныя сувеніры — паветрана-пузырысты поліэтылен. Тавар вырабляе мінскі прадпрымальнік сумесна з дзяржаўнай установай «Спецыяльны дом для ветэранаў, састарэлых і інвалідаў № 1». Галоўная ідэя апошняга — паказаць, што людзі з абмежаванымі магчымасцямі могуць на роўных быць запатрабаванымі ў грамадстве і працаўладкаванымі.

Разрэзаную на невялічкія кавалачкі і сімпатычна ўпакаваную поліэтыленавую плёнку па сімвалічнай цане ўжо пачалі прадаваць у крамах.

Сёння «поліэтылен з пазітывам» можна набыць у ЦУМе, ГУМе, гандлёвым доме «Кірмаш». У хуткім часе поліэтыленавую пузырыстую плёнку можна будзе ўбачыць і на прылаўках іншых крам і, магчыма, нават у кіёсках «Белсаюздрука».



Новыя сувеніры, перш за ўсё, знойдуць свайго пакупніка сярод дзяцей, падлеткаў, студэнтаў і офісных працаўнікоў. Лопанне пузырыстай плёнкі лічыцца рэлаксатарам і антыстрэсам. Кожны пакупнік атрымае магчымасць заспакоіцца і падняць сабе настрой, але пры гэтым яшчэ і зробіць свой уклад у дапамогу людзям, якім яна патрэбная.

**«Звязда»**

## «Гей» і «Мухасранск» — забароненыя словы

На расійскіх каналах склалі спіс словаў, якія **не могуць гучаць у эфіры.**

Знакамітае «хрэн табе ў вочы» з «Пінскай шляхты» ў эфір расійскага ТБ таксама не прайшло б. Гэта вынік уступлення ў дзеянне расійскага закона «Аб абароне дзяцей ад інфармацыі, што наносіць шкоду іх здароўю і развіццю», які ўступае ў сілу 1 верасня.

«Тэлеканалы загадзя пачалі папярэджваць кампаніі-вытворцы кантэнту аб недапушчальнасці выкарыстання ў іх прадукцыі цэлага шэрагу словаў і выразаў, падкрэсліваючы, што з гэтага часу выкарыстанне табуяванай лексікі недапушчальна, а распаўсюджанае цяпер піканне замест сумнеўных момантаў непажадана», — расказаў супрацоўнік радыёстанцыі «Рэха Масквы» Уладзімір Варфаламееў.

Ён прывёў спіс забароненых да выкарыстання ў эфіры словаў. Разам з табуяванай лексікай у яго патрапілі «кал», «экскрэменты», «залупа», «Мухасранск», «хрэн», «гемарой» (выключэнне — медыцынскі кантэкст), «гей» (і мноства яго сінонімаў, уключаючы «блакітны») і іншыя.

**Сяргей Гезгала**

## У Беларусі з’явіліся падземныя пераходы для мурашак

Новаўвядзенне на Віцебшчыне **ігнаруюць і людзі, і мурашы.**

Незвычайныя збудаванні з’явіліся на адным з астравоў Лепельскага возера — там арганізавалі пераходы для мурашак.

Пераходы з’явіліся на экалагічнай сцежцы, размешчанай побач з пансіянатам, дзе цэлы год адпачываюць турысты з Беларусі і Расіі. У месцах міграцыі мурашыных калоній ўсталявалі тры драўляныя масткі, свабоднай прасторы пад якімі цалкам дастаткова для перамяшчэння мурашак.

Праўда, і мурашкі, і людзі пакуль аддаюць перавагу паходам па-старому.

Так, турысты працягваюць таптаць сцежку, абыходзячы драўляны насціл незразумелага ім прызначэння (бо побач няма ні канавы, ні балота), тады як мурашкі арганізавалі сабе пераход проста перад мастком.

Распрацоўшчыкі сцежкі не сумуюць: увесну, калі мурашкі мігруюць калоніямі, такія збудаванні цалкам апраўдваюць затрачаныя на іх установку намаганні.

**БелТА**



## Жанчына шукала сябе разам з ратавальнікамі

Яна **проста не пазнала** сябе па апісанні.

Незвычайны выпадак адбыўся ў Ісландыі. Пошукавая аперацыя пачалася ў горным раёне на поўдні краіны, калі ў экскурсійным аўтобусе выявілася, што пасля прыпынку маладая пасажырка не вярнулася ў салон.

Праз гадзіну кіроўца аўтобуса паведаміў у паліцыю, і тая распачала пошукі. Жанчыну шукалі каля пяцідзесяці чалавек. Берагавая ахова рыхтавалася нават выслаць верталёт, але гэтаму перашкодзіў туман.

Толькі а трэцяй гадзіне ночы высветлілася, што сярод 50 удзельнікаў выратавальных работ была і сама зніклая іншаземка. Яна не пазнала сябе па даволі расплывістым апісанні і нават не ўяўляла, што яе шукаюць.

Высветлілася, што пасажырка своечасова вярнулася ў аўтобус, але паспела пераапрануцца і нафарбавацца, таму іншыя ўдзельнікі экскурсіі яе не пазналі.

Няправільна палічыўшы колькасць чалавек у салоне, яны вырашылі, што жанчына заблукала, і ўзнялі трывогу.

**Postimees.ee**



1 верасня ў чэмпіянаце Мінска гулялі «Тарпеда» і «Партызан». Сталічнае дэрбі. Матч скончыўся лікам 1:1. За гульнёй сачылі каля 600 заўзятараў — каля 100 чалавек з боку «Тарпеда» і паўтысячы заўзятараў «Партызана». Пасля матча асноўную частку заўзятараў «Партызана» адвозілі ад стадыёна на аўтазаках і аўтобусе.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Анекдоты

* * *

— Тата, а чым розьняцца льготы ад прывілеяў?

— Льготы атрымліваюць тыя, хто жыве на міласціну, а прывілеі тыя, — хто на хабар.

* * *

Калі Каці было 3 гады, яна бегала галяком па пляжы.

Цяпер ёй 30, і дзве пляшкі шампанскага дапамагаюць ёй вярнуцца ў дзяцінства...

## «НН» сто гадоў з вамі

**Інтэграцыйная інерцыя.** Нацыянальны банк ухваліў канцэпцыю пераходу на расейскі рубель у якасці грашовай адзінкі «саюзнай дзяржавы». Далейшы лёс гэтага праекта будзе вырашаць працоўная група, якую ўзначальвае Пятро Пракаповіч.

**«НН». №33. 2002.**

**Полацк. Віцебская губерня.** Пажар пачаўся з жыдоўскай хаты, агонь хутка перакінуўся на суседнія будоўлі і пайшоў гуляць па ўсім горадзе. Выгарала тры чвэрці горада, у тым ліку згарэў кадэцкі корпус, касцёл, банк і шмат мураваных будынкаў.

**«НН». №33. 1912.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8030. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 04.09.2012.
Замова №4033.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12